Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 27 (4827) 10 ліпеня 2015 г.

## Пункціры

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народнага артыста Расійскай Федэрацыі Канстанціна Райкіна. «Ролі, сыграныя Вамі на сцэне і ў кіно, здабылі шчырую любоў гледачоў і прызнанне прафесіяналаў, — гаворыцца ў віншаванні. — Упэўнены, што і ў далейшым Вашы арганізатарскія і педагагічныя здольнасці, досвед мастацкага кіраўніка аднаго з самых вядомых тэатральных калектываў Масквы будуць садзейнічаць пошуку і падтрыманню маладых талентаў, развіццю культурнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Расіяй».

✔ Пасольства Беларусі ў Францыі сумесна з Пасольствам Расіі ў гэтай краіне пры падтрымцы музея «Замкавы комплекс "Мір"» правяло памятны вечар і выстаўку, прысвечаную князю Пятру Вітгенштэйну. З Міра ў Парыж прывезлі ўнікальную калекцыю фатаграфій, звязаных з П. Вітгенштэйнам. Многія з іх захоўваюцца ў прыватных калекцыях Беларусі і Аўстрыі, шырокай публіцы былі прадстаўлены ўпершыню.

✔ У прыгарадзе Парыжа ў тэатры «Эспас Даніэль Сарана» французскай асацыяцыяй «Заўтра вясна» («Demain le Printemps») пры падтрымцы Пасольства Беларусі ў Францыі і Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі ладзіўся спектакль у выкананні франкамоўных студэнтаў з Францыі, Бельгіі, Канады і Швейцарыі, якія ў 2014 — 2015 гадах вывучалі тэатральнае майстэрства ў нашай краіне.

✔ Выстаўка «Традыцыйная матэрыяльная культура Беларусі» з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея адкрылася ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі (г. Масква). Праект ажыццёўлены пры падтрымцы кампаніі Japan Tobacco International.

✔ Да 15 ліпеня падоўжылі ў Мінску конкурс на стварэнне памятнага знака, прысвечанага грамадзянам усіх нацыянальнасцей, якія бралі ўдзел у вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Знак плануецца ўсталяваць за Трыумфальнай аркай цэнтральнага ўвахода ў музейна-паркавы комплекс «Перамога».

✔ Дзяржаўны камерны аркестр ужо другі раз прадстаўляе Беларусь на міжнародным Люблянскім фестывалі, які ў ліпені-жніўні праходзіць у славенскай сталіцы. Прадстаўнікі нашай краіны чатыры гады запар бяруць удзел у фэсце класічнай музыкі і мастацтва. Арганізатары выказалі намер і надалей запрашаць калектывы з Беларусі на гэты музычны форум.

✔ Арт-праект «Асенні салон» з Белгазпрамбанкам прадставіць работы маладых беларускіх мастакоў. Выстаўка задумана як маштабная дэманстрацыя твораў беларускіх майстроў і будзе адкрыта 8 кастрычніка ў Палацы мастацтва ў Мінску. Экспазіцыю складуць работы творцаў ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў, якія працуюць у розных відах і жанрах мастацтва.

ISSN 0024-4686

9 770024 468001 15027





# Купалаўскі тыдзень

Фота Кацярыны Зубовіч.

*Вязынка зноў прымала гасцей. Гэтым разам — традыцыйнага свята паэзіі, песні і народных рамёстваў «З адною думкаю аб шчасці Беларусі…». Канцэртная праграма з удзелам паэтаў, музыкаў і нават акцёраў, выстаўкі-кірмашы, майстар-класы… Адзін з самых яркіх момантаў свята — дэфіле, зладжанае Асацыяцыяй прафесійных фларыстаў Беларусі ды гасцямі з Украіны і Расіі: дзяўчаты дэманстравалі арыгінальныя купальскія вянкі.*

Чытайце на стар. 2 ▶

# Мудрасці часцінкі

**Выстаўка «Лідзія Арабей. Пошукі ісціны», прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння пісьменніцы, літаратуразнаўцы і крытыка, адкрылася ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі.**

Лідзія Арабей пайшла з жыцця 21 лютага гэтага года, пакінуўшы незабыўны светлы след у гісторыі беларускага мастацкага слова і творчую спадчыну амаль у 20 зборніках, сярод якіх — «Мера часу» (1962), «Экзамен» (1963), «Ларыса» (1964), «На струнах буры» (1967), «Сярод ночы» (1968), «Іскры ў папялішчы» (1970), а яшчэ — пераклад рамана эстонскага пісьменніка Ааду Хінта «Бераг вятроў», дзясяткі крытычных артыкулаў, успаміны, абразкі. Большую частку жыцця прысвяціла працы ў рэдакцыях часопісаў «Вожык» і «Полымя», рэдактарскай дзейнасці ў выдавецтве «Беларусь».

Чытайце на стар. 7 ▶



Фота Ганны Бізюнковай.

*Асабістыя рэчы Лідзіі Арабей.*

*За падзеяй*

# І ў Расіі ведаюць



Фота БелТА.

*Падчас цырымоніі ў Пасольстве Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь.*

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец атрымаў памятны медаль у гонар 70-годдзя Вялікай Перамогі і грамату Расійскага арганізацыйнага камітэта «Победа», падпісаную яго старшынёй, Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Уладзімірам Пуціным. Высокай узнагароды празаік і воін-інтэрнацыяналіст удастоены за раман «Аперацыя "Кроў"».

— Быць адзначаным на такім узроўні вельмі ганаровa, — падкрэсліў Мікалай Іванавіч. — У чарговы раз гэта пацвярджае, што, прайшоўшы праз вайну поплеч, народы Беларусі і Расіі застаюцца разам — і ў горы, і ў радасці.

Нагадаем, што ў маі за раман «Аперацыя "Кроў"» Мікалай Чаргінец уганараваны ў Белградзе літаратурнай прэміяй «Прохоровское поле».

**Яна ЯВІЧ**

# Хвіліны маўчання

**Цырымонія адкрыцця мемарыяльнай пліты на месцы расстрэлу нацыстамі мірных жыхароў адбылася ў Валожыне, паміж сучаснымі вуліцамі Беларускай і Набярэжнай.**




Увосень 1942 года тут, на гарадскім стадыёне, было расстраляна 107 чалавек. Магчымае захаванне астанкаў вязняў яўрэйскага гета, створанага ў жніўні 1941-га, было знойдзена пры падрыхтоўцы да будаўніцтва ў Валожыне жылых дамоў.

Ініцыятыва ўвекавечання памяці загінуўшых мемарыяльным знакам належыць генеральнаму дырэктару ТАА «ТРАЙПЛ» Юрыю Чыжу, заказчыку будаўніцтва. У выніку каля помніка «Маці, якая смуткуе» (са знакам воінскага захавання), усталяванага ў 1961 годзе, з'явілася гарызантальная гранітная пліта. Добраўладкаваны і падыход да мемарыяла.

У памятнай цырымоніі ўзялі ўдзел прадстаўнікі ўлады, грамадскіх арганізацый, святары. Так, старшыня Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Сямён Шапіра нагадаў: больш як мільён нашых суайчыннікаў загінула ў канцлагерах падчас Вялікай Айчыннай, больш як 800 тысяч яўрэяў сталі ахвярамі гета. У нашай краіне робіцца ўсё для таго, каб памяць пра іх захавалася.



Фота Анатоля Клешчука.

*Падчас адкрыцця мемарыяльнай пліты на месцы расстрэлу мірных валожынцаў. На пярэднім плане — Леанід Рубінштэйн.*

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Іосіф Шагал падкрэсліў: калі забываюцца імёны ахвяр ліхалецця, губляецца пераемнасць пакаленняў. Калі людзі робяць святую справу, гэта застаецца ў народнай памяці назаўжды.

Часовы Паверaны ў Справах Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Міхал Хаброс упэўнены: пакаленні наступнікаў павінны ведаць гістарычную праўду пра жахі Вялікай Айчыннай вайны. Паводле старшыні Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і суполак Барыса Герстэна, зробленае кампаніяй «ТРАЙПЛ», уладамі і жыхарамі горада і вобласці — учынак, якім можна ганарыцца. Словы падзякі ініцыятарам стварэння мемарыяла і ветэранам выказалі былы вязень Мінскага гета, вязень 9 канцлагераў, член праўлення Беларускай асацыяцыі былых вязняў гета і нацыскіх канцлагераў Леанід Рубінштэйн, галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия» Павел Якубовіч.

Генеральны дырэктар ТАА «ТРАЙПЛ» Юрый Чыж заначыў: страшная знаходка на тым месцы, дзе планавалася пабудаваць жыллё для вайскоўцаў, — яшчэ адно сведчанне бесчалавечнасці акупантаў падчас ваеннага ліхалецця. Памяць загінуўшых ушанавалі хвілінай маўчання.

**Яна ЯВІЧ**

*Надзённае*

# Лета — час для сустрэч

**Прайшло пасяджэнне савета Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. На парадку дня былі самыя розныя надзённыя пытанні. Сярод іх — размова пра шырокую работу аддзялення ў межах акцыі «Лета з добрай кнігай».**

Літаральна ўсе члены аддзялення і ў гарачую пару адпачынкаў, летніх канікул працягваюць рабіць усё магчымае ў справе прапаганды кнігі, пашырэння чытацкай прасторы.

Ёсць на гэты конт сумесныя планы з работнікамі культуры і адукацыі Міншчыны, ёсць уражальныя прыклады таго, як літаратары не шкадуюць часу на сустрэчы з чытачамі. У прыватнасці, хацелася б адзначыць паэтэсу з Валожына Валянціну Гіруць-Русакевіч.

На пасяджэнні таксама разглядалася пытанне аб прыёме ў Саюз пісьменнікаў паэтэсы з Маладзечна Тамары Бярэзінай. Падстава — зборнік вершаў і прозы «Карані і галіны». Рэкамендацыі аўтару для ўступлення ў СПБ далі Віктар Шніп і Алесь Карлюкевіч.

Прынята рашэнне прасіць прыёмную камісію і прэзідыум СПБ падтрымаць рашэнне савета абласнога аддзялення аб прыёме Т. Бярэзінай у СПБ.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Купалаўскі тыдзень

**Так у двух словах можна апісаць шэраг святочных дзён, прымеркаваных да дня народзінаў Янкі Купалы. Мерапрыемствы — іх было тры — ладзіў музей імя паэта.**

### З МІНСКА…

Янка Купала прыехаў у Маскву 18 чэрвеня 1942 года, каб падрыхтавацца да святкавання ўласнага юбілею. У гонар 60-годдзя паэта 7 ліпеня планаваліся ўрачыстасці на высокім узроўні. Але праз дзесяць дзён пасля прыезду ў расійскую сталіцу паэт трагічна загінуў. У ліпені 1962 г. урна з прахам Янкі Купалы была перавезена ў Мінск і перазахавана на Вайсковых могілках. З гэтага часу супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея штогод наведваюць магілу, прыбіраюць магілу паэта. Сёлета традыцыйныя «Жальбіны» адбыліся 29 чэрвеня.

Да магілы Янкі Купалы прыйшлі супрацоўнікі музея, пісьменнікі Анатоль Бутэвіч, Міхась Пазнякоў, Віктар Шніп, Навум Гальпяровіч, Таццяна Сівец, літаратуразнаўца Міхась Тычына. А. Бутэвіч вылучыў значныя даты, якія сёлета неаднойчы ўзгадвалі пісьменнікі і купалазнаўцы: у 2015 годзе спаўнілася 110 гадоў з дня публікацыі верша «Мужык», 80 гадоў з часу падарожжа паэта ў Славакію. Т. Сівец расказала пра свае ўражанні ад наведвання славацкіх мясцін, якія памятаюць Купалу. Многія прамоўцы падкрэслілі, што Янка Купала — адзін з самых вядомых за мяжой беларускіх паэтаў, своеасаблівы «культурны брэнд» нашай краіны.

Гучала падчас «Жальбін» і сумная мелодыя скрыпкі — музыка Дзмітрыя Кацечава ў аўтарскім выкананні.

### У ВЯЗЫНКУ…

Вязынка сустракала гасцей 5 ліпеня. Маладзечанскі раён шырока вядомы ў Беларусі якраз сваімі культурнымі праектамі. Штогадовае паэтычнае свята ў Вязынцы таксама ладзіцца пры падтрымцы Маладзечанскага райвыканкама, ад чыйго імя прывітаў гасцей начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Аляксандр Рамановіч.

— Прыемна, што менавіта ў такую сонечную, летнюю пару праходзіць гэтае свята. Людзі прыходзяць да Янкі Купалы сем'ямі. Ён стаў прыкладам сапраўднага беларуса, пражыў жыццё ў адпаведнасці з цудоўным выслоўем: «З адною думкаю пра шчасце Беларусі…».

Старшыня міжнароднага фонду імя Янкі Купалы, прафесар філалогіі Вячаслаў Рагойша таксама звярнуў увагу на трапнасць эпіграфа свята: так, ён адзначыў, што і 70-годдзе Вялікай Перамогі, Дзень Незалежнасці Беларусі, і свята ў Вязынцы, і Дзень народзінаў Янкі Купалы, які на той момант быў яшчэ наперадзе, — да ўсіх гэтых падзей дапасуецца вядомы Купалаў радок.

Пасля ўрачыстага ўскладання кветак распачаўся паэтычны фэст, у якім бралі ўдзел Міхась Башлакоў, Маргарыта Латышкевіч, Мікола Шабовіч, Уладзімір Мазго, Дзмітрый Пятровіч, Іна Фралова, Уладзімір Скарынкін, Таісія Трафімава, а таксама народны клуб самадзейных кампазітараў і паэтаў «Жывіца» Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Музычныя паўзы — а насамрэч асобны, часам непаўторны складнік свята — забяспечылі ансамблі «Беразіначка», «Вязанка», «Голас», «Крынічанька». Акцёры Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Максім Шышко і Андрэй Новік паставілі ўрывак са спектакля «Адвечная песня», 13-я ўгодкі якога святкаваліся ў самім тэатры на наступны дзень.

Янка Купала ўскладаў вялікія надзеі на моладзь Беларусі. У такім святле асаблівай увагі заслугоўвалі трое ўдзельнікаў свята: Дзмітрый Маеўскі, Ірына Кірдань і Аляксандра Пальчонак, фіналісты конкурсу творчых работ «Купаляняты».

Заключны акорд канцэрта — гімн музея Янкі Купалы (аўтары — Навум Гальпяровіч і Алесь Камоцкі) праспяваны ўсімі разам.

Пэўна, зусім інакшым было б гэтае свята без Асацыяцыі фларыстаў Беларусі, Украіны і Расіі: дзякуючы не толькі расквецілі летні дзень, але і самі ператварыліся ў сучасных купалінак.

### І ЗНОЎ У МІНСК

Традыцыйна дзень народзінаў Янкі Купалы — сёлета 133-і — святкуецца 7 ліпеня. У гэты дзень адбылося апошняе мерапрыемства Купалаўскага тыдня — урачыстае ўскладанне кветак да помніка ў скверы імені паэта і там жа — паэтычны мітынг «Палымянае слова паэта». Ва ўскладанні кветак бралі ўдзел прадстаўнікі літаратурных музеяў Мінска, школьнікі, літаратары. Міхась Пазнякоў звяртаўся да юнай аўдыторыі з перакананаўчымі заклікамі шанаваць беларускую мову, Навум Гальпяровіч распавёў пра выключную ролю Янкі Купалы ў станаўленні сучаснай Беларусі, а Ніна Галіноўская пацешыла дзяцей вясёлымі вершыкамі.

Да маладых беларусаў звярнулася дырэктар музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч:

— Як казаў паэт, «на цябе, наша моладзь, надзея». Вы будучае нашай краіны. І таму вельмі прыемна, што прыходзіце сюды, да помніка Купалу.

Так скончыліся Купалаўскія дні, але супрацоўнікі музея нагадалі: гасцей чакаюць круглы год!

**Янка НАТАВЕЦ,**
**Наста ГРЫШЧУК**

# Дзеля жыцця

**Выконваючы цяжкую працу або перажываючы смутны час, беларусы заўсёды спявалі. Шанавалі песню і ў гады вайны. Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны сумесна з Мінскім абласным аб'яднаннем прафсаюзаў выдадзены зборнік песень і вершаў «Дзеля жыцця на зямлі». Прэзентацыя адбылася напярэдадні Дня Незалежнасці ў музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.**

Урачыстасць праходзіла ў Зале Перамогі. Удзельнікамі сталі супрацоўнікі музея, кіраўнікі і работнікі абласнога аб'яднання прафсаюзаў, члены Савета па працы з моладдзю, ветэраны працы і прафсаюзнага руху.

Пра гісторыю выдання распавёў укладальнік зборніка Мікалай Шаўчэнка:

— Летась да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў нашым музеем выдадзена хранікальна-дакументальная кніга «Вызваленне Беларусі: хроніка, падзеі, героі», і каб чытачу больш эмацыянальна ўяўляць падзеі з 23 верасня 1943 г. па 26 ліпеня 1944 г., рэдакцыйным саветам было прынята рашэнне стварыць зборнік песень і вершаў беларускіх і савецкіх аўтараў. З'явілася ідэя падрыхтаваць зборнік у выглядзе асобных раздзелаў для чытачоў розных катэгорый паводле матэрыялаў нашага музея. На працягу года рэдакцыйны савет апрацаваў 36 зборнікаў і выбраў 540 вершаў і песень, больш як трыста і ўвайшло ў зборнік.

Асаблівасць выдання ў тым, што вершы і песні змешчаны ў храналагічным парадку. Кожны з васьмі раздзелаў зборніка прысвечаны пэўнай тэме: вобраз жанчыны на вайне, барацьба народа супраць захопнікаў, памяць пра вайну. Яшчэ адной адметнасцю кнігі з'яўляецца раздзел, прысвечаны самому музею. Завяршае зборнік паэма Роберта Раждзественскага «Рэквіем».

Выданне праілюстравана плакатамі, фотаздымкамі ваенных гадоў. Аздабленнем зборніка сталі рэпрадукцыі карцін Анатоля Шыбнева, Яўгена Ціхановіча, Ісака Давідовіча, Сяргея Раманава, Паўла Гаўрыленкі ды іншых беларускіх майстроў выяўленчага мастацтва.

Словы ўдзячнасці старшыні Мінскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў Віктару Маліноўскаму за дапамогу ў выданні зборніка выказаў дырэктар музея Мікалай Скобелеў. Прэзентацыя закончылася падпісаннем Пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Мінскім абласным аб'яднаннем прафсаюзаў, а завяршылася імпрэза ўскладаннем кветак да стэлы «Мінск — горад-герой» і экскурсіяй па музеі. Кожны ўдзельнік урачыстасці атрымаў у падарунак зборнік «Дзеля жыцця на зямлі».

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

# Родам з Астраўлян

Гарадоччына — радзіма Канстанціна Вераніцына, аўтара славутай паэмы «Тарас на Парнасе». Творца з'явіўся на свет 13 чэрвеня 1834 года ў вёсцы Астраўляны. Паэме сёлета — 160!

Нядаўна ў Гарадку ў сёмы раз адзначылі раённае свята народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору. Паласоўшчык зноў заняў сваё месца ў дзіцячым парку.

Гарадоцкі раён славіцца рамёствамі ганчароў, ткачых, вышывальшчыц, майстроў саломапляцення і г. д. На панадворках гасцей шчодра частавалі стравамі нацыянальнай кухні, парнаскімі прысмакамі.

На свяце паэзіі выступілі Уладзімір Скарынкін, Тамара Краснова-Гусачэнка, Наталля Саветная, Аляксандр Марчанка, лепшыя творчыя калектывы раёна.

У краязнаўчым музеі наведвальнікі пазнаёміліся з выстаўкай мастака-земляка Віктара Шылко «Рэтра». Парадавала яркая, жыццесцвярджальная палітра, рамантызм і святочнасць твораў мастака.

**Валянціна ЛУЦЭВІЧ**

# За аўтэнтыкай…

Юбілейны, пяты, рэгіянальны фестываль традыцыйнай культуры «Пятроўскі фэст» праходзіць на Любаншчыне. Хочаце засвоіць асновы беларускіх народных танцаў, пазнаёміцца з рознымі відамі рамёстваў? Майстар-класы па танцах традыцыйна ладзіць этнахарэограф, кіраўнік узорнага фальклорнага ансамбля «Верабейкі» Сяргей Выскварка.

Сёлета прыемным і карысным падарункам для ўдзельнікаў стануць спеўныя заняткі з кіраўніком фальклорнага гурта «Варган» Вольгай Емяльянчык, прынцыповая пазіцыя якой у выкладанні спеваў — імкненне да пераймання аўтэнтычнай, арыгінальнай манеры выканання.

Падчас вандровак у вёскі Закальное, Ямінск, Дарасіно гасцінна прымуць фальклорныя гурты «Глыбокія крыніцы», «Журавушка», «Кацярынка», творчасць якіх прызнаная культурнай каштоўнасцю Беларусі.

Завершыцца фэст святам Пятрок, якое традыцыйна адзначаецца ў в. Шыпілавічы 12 ліпеня. Свята цесна звязана з традыцыяй беларускіх гасцявых кірмашоў, таму малебен і канцэрт пакрысе пяройдуць у «кірмашаванне» (наведванне знаёмых у вёсцы) і завершацца ўвечары карагодамі, пятроўскім абрадам, спевамі ды танцамі.

**Ганна РУБЧЭНЯ**

# І казка лечыць

**Добры падарунак да Дня Незалежнасці для маленькіх чытачоў падрыхтавала гарадская бібліятэка-філіял № 1 горада Мазыра: у кніжніцы адбылася прэзентацыя кнігі Віялеты Богдан «Лісты з Арэшкавай вёскі».**

Творца нарадзілася ў Гомелі, скончыла Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт і цяпер працуе ўрачом-педыятрам. Таленавітая дзяўчына дапамагае дзецям не толькі лекамі, але і цікавымі, добрымі казкамі. Яе творы змешчаны ў зборніках беларускай аўтарскай казкі.

Віялета расказала чытачам пра сябе, пра паравозіка Ясіка — галоўнага героя кнігі «Лісты з Арэшкавай вёскі». Затым квэст. За паспяховае выкананне задання — салодкія прызы ад аўтара. На завяршэнне сустрэчы творца падаравала бібліятэцы сваю кнігу з аўтографам.

**Таццяна БЕРДНІК**



Мінская абласная пісьменніцкая арганізацыя развіталася з выдатным чалавекам, паэтам, членам СПБ Міхаілам Яфрэмавічам Сазончыкам. Ён нарадзіўся 5 ліпеня 1932 года ў вёсцы Юрцава Аршанскага раёна. На дзяцінства абрынуліся жахі Вялікай Айчыннай вайны: паспеў скончыць толькі першы клас. Пасля вайны атрымаў сярэднюю адукацыю, набыў аграномічныя веды, звязаў лёс з сельскай гаспадаркай. Працаваў у Крупскім, Аршанскім, Клецкім раёнах, але выйшла так, што другой радзімай стаў Нясвіжскі.

Пісаць вершы пачаў на Аршаншчыне, і першы — «Вячэрні эцюд» — надрукавала раённая газета. А потым ужо былі паэтычныя зборнікі «Пад родным небам», «Люблю», «Жыву ў Гарадзеі», у якіх аўтар выказаў сваю грамадзянскую пазіцыю, любоў да Радзімы, яе людзей. Працаваў і для дзяцей: «Вераб'іная ноч», «Сонца мыеца», змяшчаў творы ў калектыўных зборніках і альманахах. «У паэзіі, як і ў жыцці, я не схільны да кампрамісаў; заўсёды дбаў і дбаю аб адным — галоўным: каб сучаснікі і нашчадкі жылі сумленна, годна, любілі сваю Бацькаўшчыну, свой Народ, сваю Мову», — пісаў паэт.

Выказваем спачуванне яго сям'і, жонцы, дзецям, унукам, усім, з кім працаваў і сябраваў Міхась Сазончык, хто яго добра ведаў.

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі**

*Не абмініце*

# Жанчыны на фронце




**Барыс Далгатовіч — ветэран Узброеных Сіл, музейшчык з багатым досведам, кандыдат гістарычных навук. А яшчэ — літаратар, публіцыст, які наўздзіў шмат робіць для асвятлення, папулярызацыі сапраўднай гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.**

Несумненна, многія кнігі даследчыка вартыя ўвагі юнага чытача, моладзі. Як і невялікая, багатая на факты кніга «Ішлі па вайне дзяўчаты».

Выданне, якое падаравала чытачу «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», адкрываецца вершам Еўдакіі Лось «Дзяўчаты мінулай вайны». «Пужаліся свісту міны, / Чужых незычлівых вачэй, / А гінулі — як мужчыны, / Абняўшы зямлю ямчэй», — так завяршаецца своеасаблівы эпіграф да кнігі Б. Далгатовіча. На старонках зборніка лаканічных нарысаў, гісторыка-краязнаўчых нататак, карэспандэнцый мы сустракаемся з жанчынамі, якія ваявалі ў Вялікую Айчынную вайну ўпоравень з мужчынамі, былі лётчыкамі, снайперамі, медсёстрамі, кулямётчыцамі, чыгуначнікамі. Б. Далгатовіч расказвае пра жанчын у партызанскім змаганні з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Аўтар згадвае легендарных сясцёр Хаўранковых: Надзея, Матрона, Ганна, Зінаіда, Марыя, Ефрасіння — разведчыцы і сувязныя 35-й партызанскай брыгады Магілёўскай вобласці. Надзея і Марыя былі закатаваны фашыстамі. Абедзве сястры пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны I ступені. Матрона і Зінаіда адзначаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Ефрасіння і Ганна — баявымі медалямі.

Цікавай падаецца і наступная згадка. З удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны шэсць беларускіх жанчын адзначаны медалём Флорэнс Найцінгейл (заснаваны ў 1912 годзе для ўзнагароджання медсясцёр і медбратоў, якія ў выратаванні людзей праявілі найвышэйшыя міласэрнасць і гуманізм). Сярод такіх гераінь — камандзір санітарнага ўзвода лейтэнант Соф'я Кунцэвіч. За гады вайны вынесла з поля бою 147 параненых салдат і афіцэраў. Узнагароджана трыма ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнамі Айчыннай вайны I ступені і Чырвонай Зоркі.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**10 ліпеня** — *на творчую сустрэчу са славацкім акцёрам, рэжысёрам і грамадскім дзеячам Міланам Княжко ў Мемарыяльнай зале Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**13 ліпеня** — *на свята дзіцячай кнігі ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» у дзіцячай бібліятэцы № 4 (вул. Жукоўскага, д. 9/1). Ганаровы госць — паэт Уладзімір Мазго. Пачатак у 10.30.*

**15 ліпеня** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Кіраўнік — пісьменнік Міхась Пазнякоў. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**16 ліпеня** — *на пасяджэнне студыі мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Кіраўнік — пісьменніца Наталія Касцючэнка. Пачатак а 15-й гадзіне.*

## Дэбют

Кацярына МАССЭ



Нарадзілася ў Мінску. Скончыла сталічную сярэднюю школу № 73. Цяпер — студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Аўтар зборнікаў паэзіі «Льётся свет в мое окно» (2012) і «Двоичный код» (2015). Лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных літаратурных конкурсаў. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

### Ці палюбіш

*Час прыйдзе*
*і здыме з мяне*
*пярсцёнкі,*
*сукенкі,*
*сатрэ*
*мае бровы і вейкі*
*і вочы паб'е,*
*як шкло.*
*Заглушыць вершаў маіх*
*галасы*
*і спаліць мае валасы.*
*Усё знішчыць,*
*ён не эстэт:*
*усмешку,*
*хаду,*
*інтэлект,*
*свядомасць,*
*аблічча,*
*жыццё.*

*А ты,*
*калі знікне ўсё,*
*ці палюбіш*
*маё небыццё?*

### Слоўнікі

*Калі не разумееш Бога логіку,*
*шукай яе ў тлумачальным слоўніку.*

*Этапаў кармы спіс храналагічны*
*змяшчае слоўнік этымалагічны.*

*Пра шчырае, бясконцае каханне —*
*да слоўніка сінонімаў пытанне.*

*Ці правільна жывеш, ці гарманічна,*
*адкажа табе слоўнік граматычны.*

*Але, магчыма, ты з такіх*
*назоўнікаў,*
*што самі сабе пішуць слоўнікі.*

***

*Я хацела знайсці,*
*але не змагла адшукаць.*
*Я хацела набыць,*
*але не змагла атрымаць.*
*Я хацела ісці,*
*але не было куды.*
*Намагалася плыць,*
*але не было вады.*
*Я хацела любіць,*
*але не было каго.*
*Я глядзела ўверх,*
*але там не знайшла Яго.*
*Я хацела сказаць,*
*але не змагла гаварыць.*
*Заставалася знікнуць,*
*але я магу толькі быць.*

### Граматыка

*Ты дзеяслоў, а я прыслоўе,*
*сустрэліся аднойчы ў сказе;*
*і ты стварыў яго аснову,*
*чым, шчыра кажучы, уразіў.*
*Хоць я па функцыі не дзейнік,*
*але, хутчэй, як выключэнне,*
*ты падпарадкаваўся мне*
*па форме і сваім значэнні.*
*І я б максама прыняла*
*тваёй граматыкі умовы,*
*але ж ты ведаеш, што я*
*нязменная часціна мовы.*

### Дзень нараджэння паэткі

*Мне споўнілася васямнаццаць тысяч*
*слоў,*
*бо ў паэта замест лёсу —*
*лексікон.*
*Я не раблю выснову,*
*ці многа мне яшчэ іх засталося,*
*але малюся*
*богу сваёй мовы,*
*каб дапамог дажыць*
*да самага галоўнага*
*з усіх ужытых мною*
*Слова.*

### Дыханне

*удых —*
*выдых*
*удых —*
*выдых*
*прыслухайся*
*удых —*
*выдых*
*не спыніць*
*удых —*
*выдых*
*музыка*
*гэта*
*б'ецца сэрца*
*Сусвету*
*удых —*
*выдых*
*дыхаюць хвалі*
*удых —*
*выдых*
*Дух*
*рухаецца*
*па спіралі*
*не спыніць*
*удых —*
*выдых*
*гэта*
*б'ецца сэрца Сусвету*
*ты б'ешся*
*сэрцам Сусвету*
*сэрца Сусвету*
*б'ецца табою*
*Сусвет б'ецца*
*тваім сэрцам*
*удых —*
*выдых*
*не спыніць*
*удых —*
*выдых*
*ты не адзін*
*не дыхаеш сам —*
*гэта*
*лёгкія Сусвету*
*удых —*
*выдых*
*у*
*ды*
*х*
*вы*
*дых*
*дыхае*
*Дух*
*не спыніць*

Андрэй КОЗЕЛ



### Сумленна

*Мне цяжка бачыць, як знікаюць*
*Мясціны, час дзе добра бавіць.*
*Усё менш вясёлы гоман чую,*
*Дый сам я мала тут начую.*

*І гарады растуць імгненна,*
*Бо мы стараемся сумленна.*
*За спінай гінуць вёскі, сёлы…*
*Я ж па-ранейшаму вясёлы.*

*Мяне, як многіх, мегаполіс,*
*Нібы ён лепшы ёсць праполіс,*
*Лячыў ад думак сумных, прыкрых,*
*Што пры шляхах, наўсцяж адкрытых,*

*Не стаў нязграбаю, няўмекам:*
*Знайшоў жыццё, дарогу ў Мекку.*
*Згубіў сябе — адкрыў багацці,*
*І на сяло цяпер наўрад ці.*

*Я ўсё знайшоў, чаму ж мне сумна?*
*А думкі мітусяцца тлумна.*
*Яшчэ мне трэба разабрацца:*
*Я больш знайшоў? А можа, страціў?*

***

*Пра што ты думаеш,*
*калі падаеш у бездань,*
*кропля дажджу?*

***

*Вершы пішуцца…*
*Магчыма, і хацеў бы я*
*ў гэтай справе*
*прыпыніцца,*
*ды нясцерпна*
*шчасце і боль*
*трымаць у сабе.*

***

*Зрабіла выгляд,*
*што не пазнала,*
*былая каханка,*
*з якой калісьці*
*не склалася.*
*Дый пра што размаўляць?*
*Мы знаёмыя толькі ў мінулым…*



Алена БАСІКІРСКАЯ



### Развітанне

*Як сумна з'язджаць са сталіцы…*
*Мой горад нявысненых мрой,*
*Табою хачу наталіцца —*
*Пабудзь хоць у думках са мной.*

*Як сумна і сэрцу балюча*
*Цябе пакідаць назаўжды,*
*Вярэдзіць жыццёвая круча*
*Мае маладыя гады.*

*Мой горад — мая калыханка,*
*Якую спявала на сон*
*Мне маці да самага ранку.*
*Мой горад, прымі мой паклон!*

### Знаёмства

*Як я рада, што мы знаёмыя,*
*Як я рада, што чэрвень стаў*
*Тым прыпынкам і той аздобаю*
*Непачатых квяцістых спраў.*

*Як я рада, што мы расквецілі*
*Нашы будні ў празрыстым сне,*
*Як я рада, што мы прыкмецілі*
*Подых радасці — у вясне.*

*Як я рада, што Вы — няўрымслівы —*
*Напаткалі мяне тады,*
*Як парою сваёй нявысненай*
*Я не стала лічыць гады.*

*Як я рада сустрэчы стоенай,*
*Як я ўдзячна сваім багам,*
*Што на досвітку, светла-стомленым,*
*Я давер падарыла снам…*

***

*Радасці не трэба ў пазалоце,*
*І не трэба гора болей мне.*
*Не хачу нудзіцца у маркоце,*
*Не хачу трывожыцца ўва сне.*

*Хай мяне расклад звычайнай долі*
*Аніколі сцежкай не міне.*
*І не трэба мне чагосьці болей,*
*І не трэба менш чагосьці мне.*

***

*Жыццё праходзіць імгненна, міражна,*
*Дзесь проста і грэбліва, дзесьці важна.*
*Ды кожная хвіля цягнецца суткамі, стогнам.*
*Гадзіннік паказвае стрэлак размераных сцёгны.*

*Жыццё працякае, як рэзкае танга дуэта.*
*Мне кажуць: мой плашч не да твару надзеты.*
*Мне кажуць пра далікатнасць, прыветнасць.*
*А я б набыла білет у краіну светлую.*

*А я б набыла білет у краіну шчырасці,*
*У ёй я б хацела дзяцей сваіх будучых вырасціць.*
*Хай гэта была б краіна дзявочых мараў…*
*Хачу ў лабірынты светлых яе будуараў.*

Дзеніслаў НІЧЫПАРОВІЧ

# Шостачкі

*Апавяданне*

Лабастая Ева Адамчык ды танюткая Ніколь Дзеніч, неразлучныя сяброўкі-шасцікласніцы, дзеля забаўкі наракл сябе шостачкамі.

Іх узаемнае «прыцягненне» пачалося яшчэ ў трэцім класе. Ева больш паспяховая. Яе маці, з якой дачка пабывала ў Англіі, Францыі, Італіі, Іспаніі, а ў Галівудзе бачыла Джоні Дэпа — Джэка-Вераб'я са знакамітага серыяла «Піраты Карыбскага мора», — кінарэжысёр, іграе на акардэоне, а тварам падобная да спявачкі Любові Успенскай. Ева яшчэ і малюе, а маміна прафесія надала ёй «кіношны» напрамак: яна стварае акварэльныя раскадроўкі, з якіх сама здымае на айфон мультфільмы. Аднак пакуль яе творчасць зводзіцца да захаплення піратамі ды рознымі прывідамі. Дзіцячыя замарочкі — з кім не было…

Але ў Еўчыным рамантычным інтарэсе ёсць і больш сур'ёзная, зусім не дзіцячая, праява: яшчэ з першага класа закахалася ў хлопчыка з анёльскім тварыкам, не зводзіць з яго вачэй, піша, аднак не паказвае, вершы і лісты, марыць сядзець з ім за адной партай. Але ж, мяркуючы па «сціплых» адзнаках, паводле настаўніцкага раскладу, ёй не выпадае адна парта з выдатнікам. Нясцерпным агнём пячэ яе маленькае ўстрывожанае сэрца. Адна толькі радасць — адданая сяброўка Ніколь…

У Ніколь такіх пачуццяў няма і быць не можа: надта ж яна далёкая ад сентыментальнага багемнага асяроддзя. І калі Ева дзеліцца з ёю сваімі сардэчнымі пакутамі — маўчыць і нудзіцца, але дзіцячыя забавы і казачная рамантыка для Ніколь не чужыя. Яе маці, якая іграе на фартэпіяна, — урач у лякарні, у замежныя камандзіроўкі не ездзіць, не ведае вытанчанай свецкасці, ні да якой знакамітасці не падобная і, апроч работы, дома ды зрэдчас тэатра, нідзе больш не бывае.

У пачатковых класах дзяўчынкі прайшлі праз муштроўку апантана-няўрымслівай настаўніцы — тая літаральна ўбівала ў непадатлівыя галовы выхаванцаў азы пісьма. Але гэта зусім не азначае, што яна іх перайначыла і прывяла да нейкай роўніцы. Усе засталіся такімі, якімі былі. Увогуле, залішняя строгасць непрыдатная для выхавання цяперашніх школьнікаў. Крычаць, рваць сшыткі, заніжаць адзнакі, караць — недарэчна.

Ева і Ніколь, якія пераносілі настаўніцкія нападкі стрымана і абыякава, у сярэднія класы прыйшлі не зацюканымі пачаткоўкамі, а загартаванымі вучаніцамі, хаця і турбаваліся, як ім будзе пачувацца ў новых умовах з некалькімі настаўнікамі…

Касцяк класа — акрылены вучобаю гурт хлопчыкаў-выдатнікаў, у тым ліку і Еўчын улюбёнец. Сярод астатніх хлапчукоў ёсць і гультаі, і нядбайныя, і неслухі-гарэзы. Толькі ж не яны славяць клас ды школу і не імі ганарацца бацькі, аднакласнікі ды педагогі, а гэтымі самымі выдатнікамі.

Сярод дзявочай паловы класа выдатніц няма. Ёсць толькі адна зубрылка-лісліўца з прэтэнзіяй на выдатніцу, з адзінкавымі поспехамі. Іншыя ж дзяўчынкі досыць здольныя, вучацца добра, але не ахвочыя да першынства і паказальніцтва.

А як жа паспяваюць у вучобе найлепшыя сяброўкі Ева ды Ніколь? Па-рознаму. Ева, бывае, адхопіць і дзясятку, але ўвогуле адзнакі слабенькія, за выключэннем англійскай мовы. Тут дзяўчынка на вышыні: маці змалку імкнулася выправіць яе за мяжу, нават наняла рэпетытара. А вось з матэматыкай яна ні на якой мове не гаворыць. «Матэматычнае маўленне» ёй дапамагае засвоіць Ніколь. Во дзе ўжо сумленная вучаніца — толькі пра ўрокі і думае. Але…

Які нячысцік прыдумаў гэты раздзяляльны злучнік «але»?! Калі б не ён, то ў Ніколь не было б ніякіх праблем, а так трэба выкрываць нязначныя недахопы натхнёнай дзяўчынкі з чыстай душой і выдатнымі здольнасцямі (да прыкладу, верш ці тэкст запамінае з аднаго чытання). Відаць, той самы зброддлівы нячысцік «падкінуў» ёй несабранасць, мітуслівасць ды імпульсіўнасць, з-за якіх яна атрымлівае не вельмі добрыя адзнакі, таксама як губляецца ўзровень таленавітага мастацкага палатна, калі аўтар выпадкова ўстаўляе яго ў раму, зусім не прыдатную да фактуры твора…



www.1zoom.ru

Прыйшоўшы са школы дамоў, Ніколь скідае з неакрэплых плеч важкі, як падняць, рукзак, напрасткі кіруе да свайго пісьмовага стала і сядае за ўрокі. Клапатлівы тата спагадліва просіць: «Ты б, Ніколь, адпачыла трохі ды пад'ела — абед астывае!» Ніколь зірне на яго, бы на іншапланецяніна, прамовіць незадаволена: «Я ўрокі раблю, а ён тут са сваёй ежай прычапіўся!» — і зноў утаропіцца ў кнігу. Тата змаўкае ды ціхутка сыходзіць у свой пакой — ні голасу не павысіць, ні прымусіць не адважыцца: ну як на такое цыбаценькае, станістае і худзенькае дзіця сварыцца?..

Што ні кажы, але жыццё дзяўчынак Евы і Ніколь — як школьнае, так і пазашкольнае — было бясхмарнае і бестурботнае. Але…



Евіна маці прыдбала дзесьці шчаня, надта падобнае да ваўка. Узяла яго нібы для сябе. Ды сама то на працы, то на кіназдымках, таму адказнасць за выгульванне шчаняці легла на Еву. А дзе Ева, там, вядома, і Ніколь, толькі ў Евы догляд сабачкі — сямейная неабходнасць, а ў Ніколь — сяброўскі абавязак.

«Толькі сабакі нам і не хапала!» — бурчыць тата Ніколь, які катэгарычна супраць таго, каб трымаць сабак у кватэрах. А яго жонка з дачкою вельмі рады новаму сябру.

«Загуляюцца з сабакам, а вучобу зусім закінуць!» — аргументуе тата. — «Не-не-е, татачка, я як вучылася, так і буду!» — запэўнівае Ніколь. — «Дай чэснае слова!» — просіць маці. — «Даю!» — выпальвае Ніколь. — «Што "даю"?» — перапытвае тата. — «Даю чэснае слова, што сабачка не будзе замінаць маёй вучобе!» — урачыста абяцае Ніколь. — «Я ёй давяраю, яна надзейная!» — падтрымлівае маці дачку. Тата скептычна заўважае: «Пабачым!..»

Шчаня ў Евы з'явілася, калі дзяўчынкі перайшлі ў пяты клас. Дагэтуль сяброўкі пасля заняткаў маглі затрымацца і пагуляць ля школы ці на дзіцячых пляцоўках у двары — цяпер жа як мага хутчэй спяшаліся дадому, каб неўзабаве сустрэцца зноў і пабегаць са шчанём. І гэтак увесь навучальны год. Прэтэнзій у бацькоў Ніколь да яе вучобы не было, пяты клас яна скончыла з неблагімі адзнакамі, і на бацькоўскім сходзе класная ўхваліла яе як добрую вучаніцу.

На летніх вакацыях Ніколь з маці не паехалі, як планавалі, у Крым, і дзяўчынка мусіла адпачываць у бабулі ў Старым Барысаве: утульная хатка, гародчык, садочак, паблізу — гістарычная рэчка і старадаўняя стагалосая царква. Ева ж паехала з мамай у Іспанію, а сабаку, па папярэдняй дамоўленасці, прывезлі да Ніколь. Сумленна-строгі дзядуля зрабіў яму ў двары будку — пакідаць яго на ноч у хаце не дазваляў. Сабака ўспрыняў гэта як натуральнае і спакойна бавіў ночы на ўлонні прыроды.

Лета добрае ўсім, але толькі адным кепскае — хутка мінаецца, таксама як і неўпрыкмет прайшла першая вучэбная чвэрць. Ева і Ніколь ужо добра прызвычаіліся да новых умоў з мноствам настаўнікаў, ім падабалася, што чатыры выкладчыцы, у тым ліку і класная кіраўніца, — школьныя залатыя медалісткі і што ўрокі праводзяцца спакойна.

«Шостачкі» Ева і Ніколь без асаблівых намаганняў атрымалі свае заўсёдныя адзнакі і правялі восеньскія вакацыі ўжо не са шчанюком, а з дарослым сабакам, сапраўды падобным да шэрага з цёмным адлівам ваўка, толькі трохі драбнейшага.

Якраз на гэтых вакацыях Ніколь заўважыла, што яе сяброўка даўнавата ўжо не прыгадвае свайго ўлюбёнца — таго хлопчыка з анёльскім тварыкам. Узяла ды і папытала. Ева, падумаўшы, раптам грэбліва фыркнула: «Нейкі малахольны!» А неўзабаве закахалася ў іншага хлопчыка — зацятага двоечніка…

Настала другая вучэбная чвэрць з ранішняй цемрай, дакучлівымі дажджамі і раззлаванымі вятрамі. Нягледзячы на гэта, шостачкі ўсё роўна шмат часу праводзілі з сабакам. А ўрокі?!

Урокі рабіліся, толькі не дома, а ў школцы — на перапынках, на іншых занятках і нават на падаконніку прыбіральні. Нейкая настаўніца патурыла іх адтуль і ўсё распавяла класнай.

«Няправільна рабіць дамашку на перапынках!» — дакараў Ніколь бацька. На гэта ў дачкі знайшоўся свой адказ: «Я вучыцца хачу, а настаўнікі мне замінаюць!»

Тата толькі здзіўлена хмыкнуў.

Восень нарэшце прайшла. Неўзабаве скончылася і другая чвэрць. Аднойчы бацька прыкмеціў, што дачка вярнулася са школы зажураная і прыгнечаная. «Віншую цябе, Ніколь, з зімовымі вакацыямі, хваліся дасягненнямі!» — сказаў ён. Ніколь дастала з рукзака дзённік, але перад тым як паказаць яго, залапатала: «Ты толькі, татачка, не перажывай, я выпраўлюся, абавязкова выпраўлюся, можаш мне верыць!»

Дзве шасцёркі і тры сямёркі. Тата незадаволена бурчэў: «Шасцёрку па матэматыцы яшчэ разумею, а вось па геаграфіі — не. А што па матэматыцы ў тваёй сяброўкі?» — «Тройка!» — «О-о-о, дык ты ў параўнанні з ёю выдатніца. Дабегаліся з сабакам!» Ніколь зачырванелася, апусціла долу вочы і зажурылася яшчэ больш. Бацьку стала не па сабе. Ён зірнуў у дзённік яшчэ раз. «Во-о! Ніколь, дачушка, дык цябе ёсць за што пахваліць!» — «За што?» — ажывілася дзяўчынка і запытальна ўтаропілася ў тату іскрыстымі васількова-блакітнымі вачыма. — «За дзявятку па беларускай мове і за дзясятку па беларускай літаратуры!»

Надзьмуты тварык дзяўчынкі засвяціўся ганарлівай радасцю, і яна раптоўна аб'явіла: «Тата, я вырашыла адмовіцца ад гульні з чужым сабакам». — «Правільна! Пагляджу, можа, свайго возьмем!» — адказаў той.

Ніколь радасна закрычала ад нечаканасці і кінулася да яго ў абдымкі…

# Гісторыя працягваецца

**Напісаў гістарычны раман — неміноча параўнаны з Караткевічам. Гэтак сталася з прозай Людмілы Рублеўскай, у такім жа святле абмяркоўвалася кніга Уладзіміра Мажылоўскага «Праклён мітрапаліта Феафіла», выдадзеная ў серыі «Бібліятэка часопіса "Маладосць"».**

Дзіўна, што ўвага чытача не звяртаецца ні на мастацкі ўзровень тэксту (дый увогуле яго мастацкасць), ні на форму твораў, ні на стаўленне аўтара да гістарычнага матэрыялу. Зрэшты, імкненне параўнаць усякага аўтара гістарычнай літаратуры з класікам жанру зразумелае: з кім жа яшчэ параўноўваць? Але гэта рызыкоўна і можа пайсці не на карысць новаму, посткараткевічаўскаму, аўтару.

«Праклён мітрапаліта Феафіла» — кніга, якая красамоўна сведчыць пра ролю і адказнасць укладальніка. Пачынаецца яна, на мой погляд, з найменш удалай аповесці. «Друеўскі ваўкалак» — класічны прыгодніцкі твор з выразнымі станоўчымі і адмоўнымі героямі, трагічным каханнем, змрочнай містычнасцю, якая — дарэчы, як і ў творах У. Караткевіча — мае самае зямное паходжанне. «Свае» тут — дробная шляхта, сяляне і месцічы, якія церпяць ад нахабства маскавітаў. «Чужыя» — маскавіты, якімі поўнілася Вялікае Княства ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Азначэнні «свае і чужыя» абрала нездарма: менавіта так успрымаюцца героі аповесці. Аўтар малюе маскавітаў змрочнымі фарбамі: яны чыняць здзекі з безабаронных, а ў небяспецы выяўляюцца баязліўцамі. Аднак адзін не такі кепскі персанаж на варожым баку зрабіў бы твор калі не глыбейшым, то, прынамсі, цікавейшым.

Дзеля справядлівасці зазначым, што сярод «чужых» быў усё ж адзін прывабны персанаж — даўні сябар карчмара Дубасека, ваявода Афанасій Нардын-Нашчокін. Але тых звязвала даўняе знаёмства, і невядома, як ставіўся маскоўскі ваяр да іншых ліцвінаў. Але здагадацца можна.

Гэтак жа ёсць і сярод «сваіх» адзін адмоўны герой, але сваім яго можна назваць вельмі ўмоўна: шляхціц, аказваецца, з дапамогай маскоўскага войска выхоўваў сялян.

> *Уладзімір Мажылоўскі — аўтар, ад якога сапраўды можна чакаць цікавых твораў: яны чытаюцца лёгка і без гвалту над сабою. Так, вы можаце спатыкнуцца на няўдалым слове, усміхнуцца над банальным эпітэтам, але кнігу не закрыеце. Зрэшты, калі часу ў вас зусім вобмель, можаце пачаць з канца — трэцяя аповесць не расчаруе.*

Развагі У. Мажылоўскага пра волю і годнасць чалавека, пра разуменне праўды, безумоўна, слушныя з хрысціянскага, гуманістычнага пункту гледжання, але новых граняў ці вытанчанасці радка гэтыя эпізоды — ключавыя, дарэчы, хоць і не залежныя ад сюжэта — на жаль, не паказваюць.

Што да самога Друеўскага ваўкалака, герой гэты класічна рамантычны: споўнены высакароднасці юнак, на вачах якога забіваюць маці і зневажаюць цела спачылага дзеда, галоўнага ў родзе. Цяпер юнак прагне помсты. Затым ён карае вінаватых, перажывае гісторыю любові — і вось яна, трагічная і гераічная развязка. Герой сыходзіць у палымнеючы заход.




Не маючы прафесійнай гістарычнай адукацыі, цяжка адэкватна ацаніць дакладнасць, з якой У. Мажылоўскі ўзнаўляе час, вымалёўвае гістарычныя дэкарацыі. Але і ў такім становішчы заўважна, што героі яго асучаснены, дыялогі гучаць ненатуральна, мысляць персанажы таксама сучаснымі катэгорыямі, таму, калі ў мове іх з'яўляюцца гістарызмы, успрымаюцца яны як штучна навязаныя.

> *Што яшчэ адрознівае «Праклён...», дык гэта апісанні прыроды, яна паўстае асобным героем са сваім характарам. Браслаўскае лета аўтар выпісаў даволі скупа, а вось зіма, завея з яе непаўторнай сімфоніяй намёртва ўплецены ў сюжэт, і без гэтых пейзажаў фінальныя сцэны былі б зусім іншыя.*

Спрошчанасць у паказе псіхалогіі персанажаў, хуткае развіццё падзей — характэрна і для другой аповесці, якая дала назву кнізе. Праклён мітрапаліта Феафіла адрасаваўся маскоўскаму княжацкаму роду за тое, што цар Іван Васільевіч зняважыў Наўгародскі вечавы звон. Праз гэта княжна Алена, жонка Вялікага князя Літвы Аляксандра, вырачана на пакуты. Вакол Алены і разгортваецца сюжэт, а лепей сказаць — загортваецца. Пачаўшыся з раптоўнай смерці ўдовай вялікай княгіні, ён развіваецца ў прывязцы да галоўнага героя Яна Стругі, які праводзіць таемнае следства: шукае атрутніка, зніклы скарб і каштоўны абраз. Кола падазроных звужаецца. Як і плошча, дзе адбываюцца падзеі і разам з гэтым расце напружанне. Другая аповесць зборніка, лічу, больш удалая за першую. Да таго ж, галоўны злодзей аказваецца ахвярай чужой гульні, а станоўчы герой нават выяўляе пэўную эвалюцыю, хоць і паказвае яе аўтар урывіста, пазначыўшы ўмоўны адпраўны пункт і фініш.

Аповесць мае дэтэктыўныя элементы, аднак уласна дэтэктывам назваць яе нельга.

Што яшчэ адрознівае «Праклён мітрапаліта Феафіла», дык гэта апісанні прыроды, дзе яна паўстае не столькі фонам, які адлюстроўвае эмацыянальны стан герояў, колькі асобным героем са сваім характарам. Браслаўскае лета выпісанае У. Мажылоўскім даволі скупа і ў агульных рысах, якія сталага ўражання не пакідаюць, а вось зіма, завея з яе непаўторнай сімфоніяй намёртва ўплецены ў сюжэт, і без гэтых пейзажных уставак фінальныя сцэны былі б зусім іншыя!

> *Спіраль гісторыі закручваецца не толькі на паўтарэнні адных і тых жа падзей. Яна — у нязменнасці людской прыроды. Наўпрост аўтар пра гэта не кажа, але якраз гэта паказвае.*

Відовішчнасць, скіраванасць на візуальнае ўяўленне чытача — вось на што ставіць аўтар. Хочацца адрасаваць яго кнігі падлеткавай аўдыторыі. Калі б не жорсткія сцэны, якія аўтар не спрабуе змякчыць.

І не ў параўнанне мацнейшай за ўжо названыя аповесці падаецца трэцяя, апошняя, — «Спіраль гісторыі». Тут усё іншае: адлюстраванне герояў, складанасць сюжэтнай пабудовы, кола праблем, якія закранае аўтар. Гэтую аповесць я рызыкнула б назваць «узрыўной»: У. Мажылоўскі па-майстэрску сплятае ў адно дзве тэмы — адносіны з Масковіяй і рэаліі школьнай сістэмы; таксама — мінулае і сучаснасць. І трэба сказаць, што апошняя атрымалася найбольш удалай: дасціпныя дыялогі і «школьныя сцэны» на шалях мастацкай вартасці пераважваюць усё астатняе — і «Ваўкалака», і «Праклён», і рэшту самой «Спіралі».

Спіраль гісторыі закручваецца не толькі на паўтарэнні адных і тых жа падзей. Яна — у нязменнасці людской прыроды, у адвечным змаганні паміж праўдай і маной, паміж самаахвярнасцю і прыстасаванствам. Гэтага аўтар не гаворыць, але — паказвае, коратка і ярка накідаўшы сцэну ў дырэктарскім кабінеце.

І над усім гэтым стаіць каханне, над якім ні час, ні чужыя амбіцыі, ні палітыка не ўладныя.

Адзіны заўважаны недахоп заключаецца ў мове твора: гістарычныя персанажы выказваюцца занадта сучасна. Трапляюцца і сухія, канцылярскія выразы.

Уладзімір Мажылоўскі — аўтар, ад якога сапраўды можна чакаць цікавых твораў: яны чытаюцца лёгка і без гвалту над сабою. Так, вы можаце спатыкнуцца на няўдалым слове, усміхнуцца над банальным эпітэтам, але кнігу не закрыеце. Зрэшты, калі часу ў вас зусім вобмель, можаце пачаць з канца — трэцяя аповесць не расчаруе.

Але ўсё ж другога Караткевіча ў нас пакуль няма. Ды і ці трэба?..

**Наста ГРЫШЧУК**

# Мастацтва каментарыя

Прэзентацыя кнігі «Летапісы і хронікі Вялікага Княства Літоўскага (XV — XVII стст.)» адбылася падчас VI Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Гэта трэцяе выданне ў акадэмічнай серыі «Помнікі даўняга пісьменства Беларусі». Змешчаныя ў кнізе тэксты, адаптаваныя да сучаснага правапісу, знаходзяцца ў актыўным ужытку навукоўцаў-гуманітарыяў: «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх», «Хроніка Быхаўца», «Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», «Баркулабаўскі летапіс». Самі летапісы і хронікі займаюць прыкладна палову кнігі. Не менш цікавая частка выдання — грунтоўная прадмова ўкладальніка Вячаслава Чамярыцкага і каментарыі да тэкстаў.

У прадмове вядомы старажытнік распавёў пра вывучэнне беларускіх летапісаў і іх публікацыі, вылучыў асаблівасці асобных твораў. Адна з мэт даследчыка — удакладніць час працы над тэкстам, вызначыць магчымага аўтара альбо ініцыятара яго стварэння. Так, В. Чамярыцкі прымае «пануючы вывад» пра аўтараў «Хронікі Быхаўца» — «аднаго, блізкага да літоўскіх магнатаў Гаштольдаў, другога — да слуцкіх князёў Алелькавічаў» і тлумачыць складаныя ўзаемадачыненні літоўскіх і беларускіх князёў у XVI ст. Даследчык падрабязна распавядае і пра магчымага аўтара «Баркулабаўскага летапісу» — мясцовага святара Фёдара Філіпавіча, які занатаваў многія падзеі канца 70-х гг. XVI ст. — пачатку XVII ст.

Каментарыі дазваляюць убачыць беларускае сярэднявечча вачыма не толькі даўняга летапісца, але і сучаснага гісторыка. Цікава, напрыклад, пазнаёміцца з развагамі даследчыка пра прычыны выключнай рэлігійнасці князя Войшалка альбо даведацца пра магчымае месцазнаходжанне рэчкі Сіняя вада. Згадаем, што побач з гэтай ракой у 1362 г. адбылася пераможная бітва літоўскага войска з татарамі.

Беларускія літаратуразнаўцы звычайна ставяцца да родных класікаў з вялікай пашанай. Але В. Чамярыцкі ацэньвае плён працы невядомых храністаў і перапісчыкаў без ветлівай паблажлівасці. Даследчык адзначае недахопы тэкстаў, якія ўскладняюць чытанне: так, у дачыненні да «Хронікі Быхаўца» гэта некрытычнае стаўленне аўтараў да крыніц, супярэчлівасць матэрыялаў, стракатасць тэксту. «Баркулабаўскі летапіс» вядомы паводле так званага «Патрыяршага рукапісу» — своеасаблівай хрэстаматыі розных твораў. В. Чамярыцкі дапускае, што гэты хранограф быў створаны ў баркулабаўскім мужчынскім манастыры, аднак канстатуе «бессістэмнасць у падборы і парадку размяшчэння розных тэкстаў», неакуратнасць і няўважлівасць кніжнікаў.

Патрабавальнасць медыявістаў зразумелая: летапіс — гэта не толькі мастацкі твор, але і крыніца ведаў пра мінулае. Таму В. Чамярыцкі звяртае асаблівую ўвагу на гістарычны кантэкст, які абумовіў з'яўленне знакамітых легенд, уключаных у летапісныя тэксты. Часткова ў прадмове, часткова ў каментарыях укладальнік выкладае заблытаную гісторыю рэдакцый, зводаў, спісаў і ўдакладняе, паводле якіх выданняў тэксты друкуюцца ў зборніку.

Новае акадэмічнае выданне — магчымасць зазірнуць у беларускае сярэднявечча, у славуты час, калі вялікага князя Вітаўта «як агульнарускага лідара прызнавалі не толькі тагачасныя ўдзельныя расійскія князі, але і мітрапаліт Кіеўскі і ўсёй Русі Фоцій». Многія студэнты-філолагі пазнаёмяцца з летапісамі менавіта па гэтай кнізе, а грунтоўную рэцэнзію на яе яшчэ напішуць даследчыкі-старажытнікі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Мудрасці часцінкі

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**




Фота Ганны Бізуновай.

*«Раптам яскрава адчула, што чалавек, калі памірае, то знікае назаўсёды, ён больш ніколі не вернецца да тых, хто яго любіў. І нават зробленае ім як творцам не вельмі доўга будзе свяціць нашчадкам, будзе гарэць нейкі час, як тая свечка, а потым згасне, патухне, бо загарыцца шмат новых агнёў і зацьміць старое полымя».*

Новая выстаўка названая паводле аднайменнага зборніка Л. Арабей, дзе ў невялікіх замалёўках яна выказала ўласныя думкі наконт розных жыццёвых з'яў. Вось, прыкладам, адзін з такіх твораў — «Класіка»:

«Раптам яскрава адчула, што чалавек, калі памірае, то знікае назаўсёды, ён больш ніколі не вернецца да тых, хто яго любіў. І нават зробленае ім як творцам не вельмі доўга будзе свяціць нашчадкам, будзе гарэць нейкі час, як тая свечка, а потым згасне, патухне, бо загарыцца шмат новых агнёў і зацьміць старое полымя.

А бывае так, што агонь той свечкі гарыць вельмі доўга і не згасае, гэта калі ўсе новыя агні аказаліся слабейшыя за старыя. І тады старыя агні з'яўляюцца класікай».

Сярод першых наведвальнікаў выстаўкі былі і тыя, хто ведаў Лідзію Львоўну асабіста: даследчыца літаратуры Лідзія Савік, паэт, перакладчык і драматург Анатоль Вярцінскі, рэдактар аддзела пісьмаў газеты «Звязда» Валянціна Доўнар.

Лідзія Савік распавяла, што яе заўсёды ўражвала і натхняла багатая творчая натура Лідзіі Арабей, талент якой расквітнеў на ўлонні беларускай літаратуры, сярод айчынных пісьменнікаў. Яна апынулася ў гэтым асяроддзі, калі пасля вайны пераехала са Шчучына ў Мінск. Лідзія Львоўна перажыла Вялікую Айчынную вайну, страту мужа, расстралянага нямецкімі акупантамі за сувязь з партызанамі, а праз гады стварыла ў сваіх кнігах цэлы летапіс ваеннага ліхалецця.

Скончыўшы філалагічны факультэт БДУ, а пазней — аспірантуру пры Інстытуце літаратуры і мастацтва АН БССР, Л. Арабей абараніла кандыдацкую дысертацыю па творчасці Цёткі — Алаізы Пашкевіч, з цягам часу стаўшы найгрунтоўнейшым даследчыкам літаратурнай спадчыны гэтай пісьменніцы і шмат павандраваўшы яе шляхамі. Пазнаёмілася і з роднымі Цёткі, пабывала на яе магіле, а ў Польшчы пабачылася з сястрой пісьменніцы — Каралінай Пашкевіч... Пры жыцці Лідзія Львоўна паспела ўкласці том сваіх твораў і выдаць яго ў серыі «Беларускі кнігазбор».

Анатоль Вярцінскі прадставіў публіцы зборнік Лідзіі Арабей «Пошукі ісціны». Успамінамі пра асабістыя стасункі з пісьменніцай падзялілася і Валянціна Доўнар. Акрамя таго, гледачы пабачылі відэазапіс, зроблены два гады таму навуковым супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Наталляй Гардзіенка: Лідзія Львоўна распавядае пра сваю даследчыцкую дзейнасць.

**Яна ЯВІЧ**

### З АСАБІСТАГА

Экспазіцыя «Лідзія Арабей. Пошукі ісціны» адлюстроўвае жыццё пісьменніцы шматаспектна. Ёсць тут і асабістыя рэчы Лідзіі Львоўны (сумка, расчоска, акуляры, бурштынавыя ўпрыгажэнні і нават шахматная дошка), і кнігі з адрасаванымі ёй дарчымі надпісамі, і фотаздымкі, якія выразна ілюструюць творчыя стасункі. А самы каштоўны экспанат выстаўкі — каталіцкі крыж, які вісеў над ложкам маці Алаізы Пашкевіч.

У свой час Лідзія Арабей напісала: «На сцяне, над маім пісьмовым сталом, вісіць чорны драўляны крыжык з распяццем. Яго падаравала мне родная сястра Цёткі Караліна Пашкевіч, з якой я сустракалася ў Польшчы, у вёсачцы Франін каля Лодзі ў 1977 годзе. Пані Караліна сказала мне, што гэты крыжык вісеў над ложкам яе маці ў Старым Двары, значыцца, над ложкам маці Алаізы Пашкевіч...» У музей крыж, як, зрэшты, і іншыя рэчы Лідзіі Арабей, перадала Валянціна Доўнар. У межах выстаўкі распяцце ўпершыню прадстаўлена масаваму наведвальніку.

Навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Святлана Качаноўская распавяла: асобныя часткі выстаўкі прысвечаны рэдактарскай працы і сямейным адносінам Лідзіі Львоўны (яе другім мужам быў мастак Яўген Ганкін), а таксама творчай спадчыне. Акрамя таго, яна вельмі любіла падарожнічаць, таму яшчэ адну частку выстаўкі складаюць сувеніры, прывезеныя з розных краін.

# Хэпі-энду не будзе?

**Нават калі і так, гэта не значыць, што Лідзію Арабей не варта чытаць. Наадварот: творы, якія б так расказвалі пра жыццё жанчыны, яшчэ трэба пашукаць. І калі вы хлопец і вас мучае пытанне «Чаго хочуць жанчыны?», можна смела набываць томік выбранага Лідзіі Арабей. Прыкладам, з серыі «Беларускі кнігазбор».**

Асноўны крытэрый вызначэння класікі — не зануднасць твора, як могуць падумаць няшчасныя школьнікі і студэнты, і нават не вытанчанасць радка. Нязменная сучаснасць твора, яго актуальнасць і ў час першага выдання, і праз дзесяць, і праз сто гадоў — упэўнена, і ёсць самае істотнае. «Пахвала глупству», якой сёлета 504 гады, будзе актульная да таго часу, пакуль будзе існаваць чалавецтва.

Аповесць Лідзіі Арабей «На другой зіме вайны» напісаная ў 1966 годзе. Аповесць «Халодны май» — у 1990-м, «Горкія ягады» — у 1965-м. То бок, самай даўняй з іх ужо паўвека. Два пакаленні чытачоў. І як сёння чытаюцца гэтыя творы?

Так, што немагчыма адарвацца.

Лідзія Савік, вядомая даследчыца творчасці Лідзіі Арабей, у прадмове зазначае, што мова пісьменніцы па-добраму простая, «у класічных традыцыях беларускай літаратуры», пазбаўленая ўсякага эксперыментатарства. Вельмі слушная заўвага. Асабліва ў дачыненні да першай аповесці — «На другой зіме вайны».

Але калі мова пазбаўленая эксперыментатарства, гэта не значыць, што аповед вядзецца лінейна, нудна, схематычна. Сама мова, пабудова сказа перадае ў Лідзіі Арабей стан галоўнай гераіні, прыкладам, дзяўчыны Ніны: кароткі няпоўны сказ — як няроўнае, перарывістае дыханне, як цяжкія крокі па зімовай дарозе.

Да ўсяго, Лідзія Арабей часта звяртаецца да флэшбэкаў — паказвае, што было за пэўны час да падзей, сучасных герою. Гэта можа быць вяртанне як на дзесяцігоддзі, так і на некалькі дзён. Прыём адзін з улюбёных у пісьменніцы, і нядзіўна: па-першае, ён дазваляе патлумачыць той ці іншы ўчынак героя, выступаючы своеасаблівым фундаментам для псіхалагічнага малюнка; па-другое, флэшбэк разбівае лінейны аповед, пераводзіць чытача ў іншую плоскасць, што не дае яму сумаваць. Зрэшты, сумаваць не дазволіць і іншае.

Калі вы спрабавалі пісаць прозу, пэўна, ведаеце пра адзін з самых простых спосабаў прыцягнення чытацкай увагі: галоўны герой мусіць увесь час трапляць у бяду, а потым з яе вызваляцца — сам ці дзякуючы цуду, і зноў у бяду, і зноў ратавацца, так што чытач будзе і суперажываць, і чакаць з нецярпеннем: што далей?..

*Пісьменніца, як запраўскі адвакат і пракурор у адной асобе, кладзе на стол прысяжных чытачоў доказы абвінавачвання і доказы апраўдання. І вы самі вырашаеце, вінаватая гераіня ці не.*

Лідзія Арабей віртуозна грае на гэтай струне: яе гераіні адчайваюцца і радуюцца, плачуць і смяюцца, спадзяюцца і канчаткова апускаюць рукі. Варта зазначыць: менавіта гераіні ўсіх трох аповесцей, пра якія мы гаворым, жанчына, дзяўчына, дзяўчо — вядуць за сабой чытача. Тры ўзроставыя катэгорыі, тры сацыяльныя ролі: дачка-школьніца, студэнтка ў самым рамантычным узросце, жанчына, за плячыма якой засталіся ўнушальныя граблі (метафарычныя, канечне). З'яўляюцца і іншыя жанчыны: пажылая кабета, якая завіхаецца з любімым унукам і пераймаецца за лёс дарослай дачкі; самотная кватэрная гаспадыня, якая, пабачыўшы, што яе кватарантка не асмельваецца прывесці ў свой пакойчык мужчыну, спагадліва запрашае іх сама; непрыгожая, але багатая Стэфка, дачка паліцая, сквапная нявеста, якую ўсё адно шкада — так ці інакш, але і ёй хочацца шчасця. У «Халодным маі» мы ўвогуле трапляем у інтэрнацкі пакой, дзе жывуць пятнаццаць дзяўчат. Што цікава, Лідзія Арабей апісвае іх побыт адным абзацам, быццам бы ў агульных рысах, але мы ўяўляем ва ўсіх фарбах і гуках гэтае жаночае царства. Так, Лідзія Арабей — летапісец жаночага царства.

Аднак летапісцы часта хлусяць. Хто наўмысна, жадаючы абагаціцца, хто — з любові да прадмета апісання. Як паводзіцца Лідзія Арабей? Яна гранічна шчырая. Яе гераіні далёка не ідэальныя. Так, калі Ніна з аповесці «На другой зіме вайны» яшчэ можа лічыцца станоўчым персанажам, то да дзвюх іншых, Ніны-студэнткі і бібліятэкаркі Люсі, ёсць шмат пытанняў.

Ніна-дзяўчо нясе ў вёску тавар на абмен: у Мінску голад. Запалкі, фарба і лепшыя маміны ўборы мусяць ператварыцца ў муку, сала, бульбу. Ніна перадольвае безліч выпрабаванняў: холад, цемру, страх, агіду, стому, хваробу. Кіламетры да вёскі пройдзеныя крокамі сталення. І галоўнае на гэтым шляху (на што варта звярнуць самую пільную ўвагу) — неадназначнасць рэчаў у нашым жыцці. Не існуе чорнага і белага — ёсць бясконцыя адценні самых розных колераў. Лідзія Арабей яскрава гэта паказвае. Карыстацца дапамогай ворага кепска? Безумоўна. А калі ад яго дапамогі залежыць жыццё маці і сястры?.. Цягам усяго аповеду Ніна — у развагах. Праклінае акупантаў і ў той жа час нагадвае сабе: без іх машын да вёскі не дабрацца. Бясконцы шэраг «але» паўстае на шляху гераіні. Пісьменніца, як запраўскі адвакат і пракурор у адной асобе, кладзе на стол прысяжных чытачоў доказы абвінавачвання і доказы апраўдання. І вы самі вырашаеце, вінаватая гераіня ці не.

Але Ніна, якая вельмі нагадвае дзяўчынку з сярнічкамі Андэрсэна, менш за ўсіх вартая асуджэння. Іншая справа — гераіня «Халоднага мая», таксама Ніна. Можа падацца, што гэта ўсё тая ж Ніна, якая падрасла і паступіла на філфак, аднак хутка Лідзія Арабей паказвае, што мы памыляемся. Зрэшты, характары дзяўчат падобныя. Яны мужныя, хоць і па-дзявочы баязлівыя, яны сумленныя, хоць і даводзіцца часам пераступаць праз прынцыпы, яны моцныя, хоць і прагнуць спакою, ціхага шчасця.

Студэнтка Ніна, дзяўчына разважлівая, сур'ёзная, пад ціскам абставін — пераследу ворагаў народу, усеагульнай падазронасці, адзіноты — крок за крокам грэзне ў твані. Спачатку яна не заўважае небяспекі. Кампрамісы з сумленнем здаюцца ёй не такімі ўжо страшнымі. І ўвогуле — без іх яна б наўрад ці магла вучыцца, марыць пра лепшае. Хто возьме ў сталічную ВНУ дачку лагерніка і зніклай без вестак настаўніцы? Лідзія Арабей ненавязліва і вельмі пераканаўча даводзіць: не існуе відавочнай мяжы паміж злом і дабром, жыццё — не аповесць у стылі рамантызму. Добры чалавек, патрапіўшы ў цяжкія абставіны, блытаецца, губляецца, робіць памылкі. Ды і ці памылкі рабіла Ніна? Ці мусіла яна рабіць інačай?

Тыя ж пытанні да гераіні «Горкіх ягад».

Не ўсё залежыць ад чалавека. Самая моцная жанчына мусіць мець абаронцу і самая мудрая мае патрэбу ў дарадцы. Паміж чорным і белым разгортваецца спектр чалавечых лёсаў. Усё гэта — у творах Лідзіі Арабей, напісаных мовай, якая будзе зразумелай чытачу, што толькі звяртаецца да беларускай літаратуры, і задаволіць густ чытача дасведчанага.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Гонар продкаў — гонар Вілейкі



*Народны майстар керамікі Наталля Руссіян.*

**На маляўнічым беразе Віліі прайшоў фестываль сярэднявечнай культуры «Гонару продкаў». У фэсце ўзялі ўдзел больш як 400 сяброў клубаў гістарычнай рэканструкцыі, музыкаў і рамеснікаў, а яго наведвальнікамі сталі больш як 2,5 тысячы гасцей з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Даніі, Італіі. Фэст прымеркаваны да 555-годдзя Вілейкі і арганізаваны аддзелам ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама сумесна з мясцовым клубам гістарычнай рэканструкцыі «Паходня».**

## ТРАДЫЦЫЙНЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ

За гады актыўнага правядзення фестываляў сярэднявечнай культуры ў Беларусі паспеў скласціся пэўнага кшталту канон падобных фэстаў. Натуральна, у цэнтры ўвагі арганізатараў і ўдзельнікаў — эпоха, што мусіць адпавядаць тэматыцы і скіраванасці фэсту. Акцэнт фэсту «Гонару продкаў» быў зроблены на культуры часоў Вялікага Княства Літоўскага, якая прадстаўлялася ў больш шырокім еўрапейскім кантэксце. Таму цалкам заканамерна, што ўдзельнікамі фестывалю сталі клубы гістарычнай рэканструкцыі, чыя ўвага скіраваная на XIV — XVII стагоддзі, а акрамя рыцараў і дам з беларускіх зямель на рысталішчах і пляцоўках можна было пабачыць тэўтонцаў, тампліераў, татараў, манголаў і нават шатландцаў. Еўрапейскасць фэсту падкрэслівалася таксама турнірамі, што прайшлі ў Вілейцы па старажытных канонах, музычным суправаджэннем паядынкаў, тэатралізаванымі элементамі: беларуская батлейка тут суседнічала са «Спальваннем вядзьмаркі».

— Сімвалічны сэнс мае і побыт удзельнікаў фестывалю, — кажа адзін з арганізатараў «Гонару продкаў», сябар клуба «Паходня» Юрый Палонскі. — Гэта і традыцыйныя шатры, і простая ежа — хлеб, мяса і рыба, і посуд. У той час не было відэльцаў, елі драўлянымі лыжкамі, пілі з гліняных кубкаў. Каля стала і вогнішча завіхаліся жанчыны, а мужчыны займаліся падрыхтоўкай зброі. Турніры таксама прайшлі па еўрапейскіх правілах, напісаных яшчэ ў сярэднявеччы.



*Узброены шатландскі пехацінец.*

У сярэднявечных турнірах часам гінула больш рыцараў, чым падчас войнаў. Справа ў тым, што спачатку не існавала раздзялення зброі на баявую і турнірную, таму паядынкі дзеля абароны ўласнага гонару ці дамы сэрца часам каштавалі смелым ваярам жыцця. Падчас парных і групавых баёў, бугуртаў і асады замка ў Вілейцы ахвяр не было, аднак відовішча з-за гэтага стала не менш яркім і запамінальным. Малітва перад боем, выказванне павагі да саперніка, адмова ад паядынка з сябрамі — справа рыцарскага гонару перадусім!

Надзвычай добрым было рашэнне арганізатараў суправаджаць паядынкі жывой сярэднявечнай музыкай у выкананні гуртоў Cad Goddeu (Брэст) і Aqua Profunda (Мінск). Музыка не толькі ўздымала настрой гледачоў, але і падбадзёрвала, падтрымлівала рыцараў падчас бою.



*Падчас рыцарскага турніру.*



*Малітва перад боем.*

Шмат увагі наведвальнікаў фэсту традыцыйна прыцягвала пляцоўка рамеснікаў. Вырабы ганчароў адразу ж знаходзілі сваё месца ў рыцарскім лагеры і на фестывальных пляцоўках, керамічныя свістулькі нібыта ажывалі ў руках музыкаў, а металічныя ўпрыгожванні ў сярэднявечным стылі дапаўнялі вобразы ўдзельнікаў і гасцей фэсту. Тут можна было набыць сувенірны драўляны меч да юбілею Вілейкі ці на памяць пра фестываль або захапіць з сабою адмысловую манету, у вашай прысутнасці адбітую майстрам з Літвы.

Госці фэсту маглі не толькі назіраць за турнірамі (дарэчы, рысталішчы былі досыць вялікімі, што давала магчымасць кожнаму пабачыць паядынак), але і пакатацца на конях, паглядзець выступленні скамарохаў з мінскага вулічнага тэатра «Вір» і тэатральныя пастаноўкі, асвоіць сярэднявечныя танцы і паўдзельнічаць у майстар-класах рамеснікаў. Працавала этнапляцоўка са спевамі ад калектываў «Горынь», «Мярэжа», «Рутвіца» і танцамі пад акампанемент капэлы «На таку». Канцэрт, што завяршаў першы дзень фестывалю, таксама не пакінуў абыякавымі гледачоў. Тут выступілі гурты Rokash, Nevrida, «Кашлаты Box», Znich.

## НАВІНКІ І ЦІКАВОСТКІ

І хоць фэст у Вілейцы адпавядаў амаль класічнаму фармату беларускага фестывалю сярэднявечнай культуры, аднак яго арганізатары зрабілі вялікі крок наперад па прадстаўленні эпохі, насычэнні праграмы забаўляльна-адукацыйнымі імпрэзамі. Гаворка ідзе перадусім пра драўляны замак, пабудаваны адмыслова да фэсту. Ён мусіў стаць месцам дзеяння аблогі — ператварыцца ў рэзідэнцыю Лівонскага ордэна, замак Хрыстмэтэль, дзе ў 1324 і была сапраўдная аблога рыцарамі Вялікага Княства пад кіраўніцтвам князя Гедыміна. Але драўляны замак стаў не проста сімвалічнай сцэнкай, муляжом, але яшчэ адной фестывальнай пляцоўкай.

Тут размясціўся паўнавартасны сярэднявечны тэатр, дзе на сцэне гралі не акцёры, а сябры клуба «Паходня» і распавядалі пра зброю, даспехі, ваенная майстэрства старажытных шатландцаў, дэманстравалі вайсковыя прыёмы і нават дазвалялі гледачам прымерыць даспехі і адчуць сябе жыхарамі сярэднявечных Высакагор'яў.

Каб трапіць у замак, а значыць, і на прадстаўленне, гледачам патрэбна было прайсці праз мост, замкавыя вароты (як у сапраўдным замку!), заплаціць за ўваход сімвалічную суму і размясціцца ў цені імправізаванай глядзельнай залы ці проста сесці на сена, раскіданае па зямлі. Адметна, што прадстаўленні паўтараліся некалькі разоў цягам аднаго дня (столькі ахвочых было іх пабачыць!), а на другі дзень праграма была зусім іншай.

Што ж мы даведаліся пра шатландцаў? Яны былі хітрымі і крыху беспрынцыповымі воінамі: перад атакай злавалі саперніка, зневажаючы яго, каб выклікаць моцную ярасць і пакрыўдзіць, заганялі ў пастку, нападаючы па некалькі чалавек на аднаго, маглі доўга пераследаваць ворага на конях, пакуль той зусім не выбіваўся з сіл. Знакаміты кілт быў для шатландцаў не проста адзеннем. Гэта і абарона ног (вось чаму на ім столькі складак), і плашч, і коўдра. Даспехі шатландцаў досыць лёгкія, яны забяспечвалі воінам рухомасць, у іх аснове — скура (у тых мясцінах заўсёды гадавалі многа авечак, таму недахопу ў гэтым матэрыяле не было), на якую надзяваліся металічныя элементы. Зброю выкарыстоўвалі таксама лёгкую — клінкі, пікі, невялікія сякеры і шчыты, так званыя «палутарныя» мячы — лягчэйшыя, чым двуручныя, іх зручна трымаць як дзвюма рукамі, так і адной. Усё ва ўзбраенні шатландскіх воінаў працавала на тое, каб рыцар заставаўся лёгкім, мог змагацца хутка і хутка ўцякаць. Такім жа імклівым было і іх жыццё. Кожны воін меў пры сабе адмысловы камень. Калі ўзнікала патрэба ў ежы, забітую жывёлу смажылі не цалкам (гэта патрабавала шмат часу), а награвалі камень у вогнішчы і запякалі на ім невялікія кавалачкі мяса.

Цікава, што падчас прадстаўленняў у замку гучала не шатландская валынка-хайлэнд, а беларуская дуда!

## НАДЗЕІ І СПАДЗЯВАННІ

Думаецца, няма сэнсу яшчэ раз падкрэсліваць значэнне фестываляў сярэднявечнай культуры. Відавочна, што яны садзейнічаюць паглыбленню гістарычных ведаў насельніцтва, абуджэнню цікавасці да мінуўшчыны краю, разам з тым развіваюць пачуццё нацыянальнай самасвядомасці, спрыяюць усведамленню багатай спадчыны Беларусі. Так, па словах Юрыя Палонскага, раней жыхары Вілейкі не выказвалі моцнай цікавасці да гісторыі, але з цягам часу, калі праца клуба «Паходня» актывізавалася, у горадзе стала з'яўляцца ўсё больш маладых людзей, захопленых рэканструкцыяй і сярэднявечнай музыкай. Сябры клуба з радасцю дапамагаюць творчаму развіццю такіх асоб!

У цэлым надзеі на лепшае ёсць. Бо калі паўтара дзесяцігоддзя таму сама ідэя правядзення рыцарскага фэсту ў Беларусі падавалася амаль фантастычнай, то сёлета да прызнаных фестывальных «сталіц» Навагрудка, Міра, Нясвіжа, Віцебска, Браслава, Дудутак, Ліды далучылася маленькая, але гордая Вілейка. Цяпер і спадзяванні на тое, што фэст «Гонару продкаў» стане штогадовым, не выглядаюць утопіяй.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Яшчэ раз пра вайну

## У архіве-музеі чакаюць маладых даследчыкаў

Грунтоўная манаграфія доктара філалагічных навук, прафесара Міхася Тычыны «Народ і вайна», прысвечаная даследаванню адметнасцей адлюстравання вайны ў беларускай літаратуры, не так даўно пабачыла свет у Выдавецкім доме "Беларуская навука". Прэзентацыя выдання прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Тут жа адбылося адкрыццё тэматычнай кніжнай экспазіцыі «Адна праўда застанецца…», у межах якой прадстаўлены кнігі, літаратуразнаўчыя даследаванні супрацоўнікаў Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, прысвечаныя вывучэнню тэмы вайны ў беларускай літаратуры.



Міхась Тычына.

Тэма Вялікай Айчыннай вайны для беларусаў вечная. Вайна — у сотнях навуковых работ, мастацкіх і дакументальных фільмаў, твораў літаратуры, жывапісу, скульптуры. Адметна, што традыцыі вывучэння, асэнсавання вайны былі закладзены яшчэ прадстаўнікамі навукі і мастацтва першага пасляваеннага пакалення. Менавіта на іх дасягненнях грунтуюцца працы сучасных аўтараў і даследчыкаў, пішуцца новыя кнігі. На гэта звярнуў увагу ў сваім прывітальным слове акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя. Ён падкрэсліў, што толькі сёлета ў Выдавецкім доме «Беларуская навука» пабачыла свет пяць новых навуковых прац, прысвечаных асэнсаванню падзей Вялікай Айчыннай. Гэта даніна памяці нашага пакалення пакаленню 1940-х, тым, хто даў нам магчымасць жыць пад мірным небам.

Новая кніга Міхася Тычыны «Народ і вайна», безумоўна, у ліку такіх грунтоўных і надзвычай важных выданняў. Яна выяўляе шырокамаштабнасць мастацкага мыслення даследчыка і прэзентуе ўнікальнае, адметнае ўвасабленне нацыянальнага характару і раскрыццё нацыянальнай ментальнасці. Яго шырокі погляд на супольнасць братэрскіх народаў падчас вайны набывае філасофскую абгрунтаванасць. Складанасці барацьбы з фашыстамі падаюцца праз горкую праўду, якую павінен ведаць кожны беларус. У сваёй манаграфіі беларускі літаратуразнавец гаворыць пра жахлівыя наступствы «карычневай чумы», калі беларускі народ за гады вайны страціў кожнага трэцяга жыхара.

У кнізе «Народ і вайна» асэнсоўваецца патрыятызм учынкаў, паводзін, мыслення беларусаў на прыкладзе нашай класічнай літаратуры. Даследчык трапна паказаў, як гісторыя паўплывала на лёс і творчасць беларускіх вучоных — Навума Перкіна, Фёдара Янкоўскага, Уладзіміра Калесніка, Лявонція Гараніна, Уладзіміра Гніламёдава, прадвызначыўшы тэматыку і праблематыку іх прац.

Кніга даследчыка вызначаецца аналітызмам, фатаграфічнасцю, гістарызмам пры апісанні падзей, абставін, умоў вайны. У манаграфіі зафіксаваны падзеі, якія адбываліся ў гады вайны на беларускіх землях і знайшлі сваё ўвасабленне ў мастацкіх творах беларускіх пісьменнікаў — Кузьмы Чорнага, Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Івана Навуменкі, Янкі Брыля і іншых аўтараў, чыю творчасць аўтар аналізуе падрабязна і грунтоўна. Гэтую адметнасць работы шаноўнага даследчыка падкрэсліў у сваім выступленні дырэктар Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, доктар гісторыі, доктар мастацтвазнаўства Аляксандр Лакотка. Ён заўважыў:

— Беларускія аўтары стварылі шмат работ пра вайну, але і даследчыкі літаратуры таксама шмат часу і сіл прысвяцілі гэтай драматычнай, вельмі балючай і заўсёды актуальнай тэме. Праца Міхася Аляксандравіча — літаратурна-філасофская. Вельмі моцная назва даследавання, яна трапная і значная, па-талстоўску шырокая.

І гэта сапраўды так. У новай манаграфіі Міхась Аляксандравіч разважае па-філасофску шырока, асэнсоўваючы паняцці «народ», «вайна», «літаратура». Асобнае месца адведзена даследаванню ўспамінаў айчынных навукоўцаў, якія ваявалі на фронце, былі ўдзельнікамі падпольнага і партызанскага руху. У кнізе «Народ і вайна» аўтар трапна адзначае: «Няма на зямлі народаў, якія хацелі б вайны, няма нацый, па сваёй прыродзе ваяўнічых або міралюбных. Такімі іх робіць гісторыя. Адносіны таго ці іншага народа да вайны і міру — самай балючай праблемы на ўсе часы — залежаць ад таго, наколькі глыбока засвоены маральныя ўрокі гісторыі. У мастацка-вобразнай сістэме беларускай літаратуры пра вайну заўсёды ставілася пытанне выбару паміж квітнеючай нацыяй з належнай ёй філантропіяй, гуманізмам і выродлівым натоўпам, масай, для якой няма нічога святога».



Сяргей Гаранін.

Даследчык адзначае, што праблема «народ і вайна» ў наш час ператвараецца ў праблему месца і ролі чалавека ў свеце, яго стаўлення да свабоды і неабходнасці, да мінулага і будучыні, да вайны і міру. Быць і заставацца людзьмі — значыць памятаць пра гісторыю, усведамляць сябе прыналежнымі да яе і ніколі не забываць падзеі 1941 — 1945 гадоў. Менавіта на гэты аспект кнігі Міхася Тычыны звярнуў увагу дырэктар філіяла «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі», доктар філалагічных навук Аляксандр Лукашанец. Ён падкрэсліў:

— Войны пачынаюць палітыкі, а церпяць ад іх народы і краіны. Гісторыя паказвае, што на працягу XX ст. у ваенныя канфлікты былі ўцягнуты ўсе славянскія народы, што негатыўны досвед папярэдніх пакаленняў не становіцца ўрокам для наступнікаў і нават сёння на славянскіх землях праліваецца кроў. Але можна ганарыцца, што наш народ ужо 70 гадоў жыве пад мірным небам, бо мы змаглі пранесці памяць пра мінулую жахлівую вайну праз пакаленні. І заслуга ў гэтым у тым ліку беларускай літаратуры, дзе ваенная тэматыка займае адно з асноўных месцаў. Яна паказала і жахі вайны, і годнасць чалавека на вайне, падказвае маральныя шляхі таго, як можна пазбегнуць тых страшных падзей у жыцці народаў.

Так сталася, што ў спісе работ Міхася Тычыны — ужо дзве кнігі з прац «Народ і вайна». Як распавёў намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Сяргей Гаранін, праца па даследаванні тэмы вайны ў беларускай літаратуры распачалася ў 1970-х гадах. Да гэтага часу быў назапашаны пэўны багаж тэкстаў, якія маглі асэнсоўвацца ў літаратуразнаўстве. Тады па ініцыятыве члена-карэспандэнта НАН Беларусі Алеся Адамовіча ў тагачасным Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы распачата серыя, навуковы праект, прысвечаны літаратуры пра вайну. Гэта былі невялікія кнігі на рускай мове — каб вынесці праўду вайны на больш шырокія абшары СССР. У групе даследчыкаў-ветэранаў працаваў малады навуковец, які вайны не памятаў, хоць нарадзіўся ў гады ліхалецця. Гэта Міхась Тычына. У выніку яго даследаванняў па-руску выйшла кніга «Народ і вайна».

— Важна падкрэсліць, што новае выданне — не тая самая праца. Тут толькі яе перапрацаваныя часткі. Кніга ўзбагацілася не толькі коштам самога матэрыялу, зразумела, што за 40 гадоў шмат адбылося ў літаратуразнаўстве, літаратуры, з'явіліся новыя акцэнты ў асэнсаванні самой вайны, мы пачалі ўсведамляць яе ў больш маштабным, філасофскім плане. У працы Міхася Аляксандравіча падаецца і геаграфічна, і храналагічна вельмі шырокі агляд падзей вайны і іх адлюстраванне ў беларускай літаратуры. Шырыня ахопу матэрыялу дала магчымасць аўтару выпрацаваць філасофскія дэфініцыі. Такім чынам гэтая кніга становіцца краевугольным каменем для далейшых даследаванняў ваеннай тэматыкі ў беларускім літаратуразнаўстве.



Выстаўка літаратуразнаўчых работ Міхася Тычыны.

Часта здараецца так, што менавіта дзіцячыя ўспаміны становяцца вызначальнымі ў творчым лёсе, працах пісьменнікаў, даследчыкаў. Так адбылося і ў жыцці Міхася Тычыны. Аўтар прыгадаў:

— Калі мы з сям'ёй жылі ў Якуціі, я быў маленькім хлопчыкам. Ужо калі вайна скончылася, неяк па вёсцы праходзілі палонныя немцы. Людзі выбягалі паглядзець на тых, з кім мы ваявалі, каго баяліся і каго ненавідзелі. А мая бабуля мяне падштурхнула падаць немцу цыбуліну. У Якуціі гэта дэфіцыт, бо вырошчваць гародніну было вельмі складана. Я падбег. Немец быў вельмі ўражаны падарункам і пагладзіў мяне па галаве. Думаецца, здарэнні, што асядаюць у памяці дзіцяці, прымушаюць яго крыху інакш думаць пра людзей, жыццё, сяброў, ворагаў. У 1947 годзе наша сям'я ўжо вярнулася ў Беларусь, і згадак пра вайну ў маім дзяцінстве было шмат, яны засталіся ў памяці на ўсё жыццё. Калі бацька з сябрамі збіраліся за сталом, гутарылі толькі пра вайну. Я слухаў як завārожаны, для мяне гэта было нешта незвычайнае, моцна ўражвала. Я мару завяршыць другое выданне гэтага даследавання, звярнуць увагу на аўтараў, пра якіх яшчэ не згадваў. Пісьменнікі па-рознаму глядзяць на тое, што такое вайна і як яе паказваць, бо ў беларусаў казаць пра гэта можна бясконца. Мяне абражае выказванне «абы не было вайны» ў зневажальным, здзеклівым сэнсе. Менавіта для беларуса нічога смешнага ў гэтых словах няма. Вайна жыве ў кожным з нас, у нашай крыві.

І сапраўды, тэма Вялікай Айчыннай вайны — невычэрпная, нас чакаюць новыя адкрыцці, даследаванні, выданні ваенных дзённікаў, лістоў беларускіх пісьменнікаў і даследчыкаў літаратуры. Як распавяла дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка, у фондах архіва-музея яшчэ шмат неапублікаваных дакументаў, якім патрэбны ўдумлівы даследчык.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Люстэрка для адзінокіх

**Любіце зазіраць у вячэрнія вокны, гуляючы па вуліцах горада? Вось мужчына амаль нерухома сядзіць на кухні, пацягваючы гарбату, — відаць, стаміўся. Паверхам вышэй маленькая дзяўчынка грае на фартэпіяна, разбаўляючы гук машын шапэнаўскім сумам. Спазнаючы іншых — спазнаеш сябе.**

У кнізе «Неперадавальнае каханне», вокладка якой нагадвае тыповы жаночы раман, сабраныя не проста гісторыі пра мужчын і жанчын, а філасофскія, чулыя, часам іранічныя і кранальныя моманты. Так, менавіта моманты, калейдаскоп падзей. Зборнік, які выйшаў у «Выдавецкім доме «Звязда», нельга ўспрыняць адназначна. Нядзіўна, бо ўсе апавяданні праўдзівыя і вельмі асабістыя, без мішуры і літаратурнага глянцу.

## НА МЯЖЫ ТРОХ ЖЫЦЦЯЎ

Адразу хочацца пераскочыць на некалькі дзясяткаў старонак у сярэдзіну і звярнуць увагу чытачоў на аповесць «Тры дамы ў пошуках кахання і смерці» Алены Паповай. Калі ператварыць тэкст у сцэнарый, магла б атрымацца нядрэнная містычная меладрама пра вандроўкі ў мінулае, таямніцы жаночай душы і магію люстэркаў. З чароўным кафэ «Падарожнік» у дадатак, дзе ў прыбіральні хаваецца… партал. Але насамрэч фантастыкі тут няшмат — затое багата знакаў!

Незвычайнасць аповесці яшчэ і ў тым, што ў гераінь няма імёнаў. Чытач ацэньвае толькі па ўчынках. Усе яны — немаладыя жанчыны, названыя масцямі карт: чырвоная, крыжовая і бубновая дамы. Згуртавала трагічнасць лёсаў — безліч памылак у маладосці, якія прывялі да адзіноты. На прыкладзе іх гісторый можна павучыцца будаваць сваё ўласнае жыццё, сямейныя паводзіны, яшчэ раз зразумець, не з казак і блокбастараў, а з вуснаў мудрых людзей, што самае галоўнае — слухаць сваё (і толькі сваё!) сэрца.

У адной з жанчын не было дзяцей, у іншай муж сышоў да маладой дзяўчыны, трэцяя стала «кармічнай» удавой. Распаўсюджаныя сюжэты, ці не праўда? Прачытаўшы гісторыі, пераконваешся: ніякі псіхолаг табе ўжо не патрэбны. І прыходзіш да высновы, што на ўсё можна знайсці адказ і рашэнне.

На кнізе лёгка скласці топ-спіс парад пра тое, што катэгарычна нельга рабіць жанчынам у шлюбе: няўважліва ставіцца да мужа, слухаць угаворванні сваякоў, якія лезуць у ваша асабістае жыццё, выхоўваць мужчыну, як немаўля, ці, наадварот, узвальваць на яго плечы ўсе без выключэння турботы. І, нарэшце, «Тры дамы ў пошуках кахання і смерці» — гэта гісторыя пра тое, што тым, хто ўсвядоміў свае памылкі, Бог дае шанц — і заўсёды, нават у канцы шляху, можна ўсё змяніць.

## ДОЎГА І АДЧАЙНА

Такую назву мог бы атрымаць раман Веры Зелянко «Не памерці ад ісціны». Фігуруе ў ім чалавек, які цалкам страціў сябе, ды не стаў, напрыклад, рамантычным героем, як у Рэмарка, а ператварыўся ў так званага суровага хлопца пялевінскай рэчаіснасці. Твор не прачытаеш на адным дыханні; але ідэя ў рамане бяспройгрышная: ну хто, скажыце, не марыў пачаць новае жыццё? Вось і герой твора, вядомы акцёр, вырашаецца перакрэсліць мінулае і стаць іншым чалавекам. Толькі ці ўдасца?

Калі зноў параўноўваць з кіно, то мог бы атрымацца нядрэнны дэтэктыў з інсцэніроўкай смерці і крадзяжом — праўда, гэтая лінія не знайшла развіцця. З самага пачатку герой адчайна пакутуе, хоць, здавалася б, усё пры ім: дом, поспех у прафесіі, дастатак, прыгажуня жонка і разумніца дачка. Аднак шчасце апынаецца штучным, атручаным здрадай, крывадушнасцю і хлуснёй. Пранікнуцца сімпатыяй і спачуваннем да героя не атрымліваецца, затое яго прыклад вучыць больш уважліва ставіцца да людзей, дзейнічаць, а не скардзіцца. Да чаго прыводзіць зайздрасць і сквапнасць, эгаізм і павярхоўнасць — пра гэта таксама кажа аўтар, высвечвае словамі, як ліхтарыкам, людскія заганы.

Што самае каштоўнае ў жыцці? Раман адназначна дапаможа вам адказаць на гэтае пытанне.

## ТЫСЯЧА І АДНА СУСТРЭЧА

Добрую спробу растлумачыць іншае, хвалюючае многіх, пытанне пра тое, што такое сапраўдныя пачуцці, можна знайсці ў аповесці Алены Афанасьевай «Неперадавальнае каханне». Тут ёсць усе «дэкарацыі» закаханасці: зямля — з-пад ног, салодкае галавакружэнне, гарачая нястрыманасць... Не, гэта не проста дамскі раман, а дэтальнае пранікненне ў псіхалогію ўзаемаадносін, аналіз характару мужчын. Аўтар апавядае пра бясконцыя выпадковыя (і не зусім) сустрэчы, сутнасць прыцягнення і адчужэння, свет духоўнага і фізічнага. Павучальна? Зразумела!

**Марыя ВОЙЦІК**



# Скрыжаванне паралельных

**Пяць невялікіх аповесцей сучасных беларускіх аўтараў, якія з поспехам друкаваліся раней у часопісе «Нёман», увайшлі ў зборнік «І няма шляху чужога», што выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда». Аўтараў не аб'ядноўваюць ні асаблівасці стылю, ні час апавяданняў, ні філасофія. Цалкам па-рознаму «малююць» яны герояў, кажуць свету пра непадобныя рэчы. Чаму ж іх творы трапілі ў адну кнігу? З-за сваёй мастацкай глыбіні, здольнасці перавярнуць у душы не адзін стос пачуццяў, прымусіць паглядзець на свет пад іншым, нязвыклым, ракурсам.**

Светлай энергетыкай заражана аповесць Андрэя Федарэнкі «Дзікі Луг» — пра людзей, якія выраслі і жывуць сярод балот і лесу, а летнія дні бавяць за касьбой і іншай сялянскай працай. Дзікім Лугам называецца ўрочышча за некалькі кіламетраў ад вёскі, дзе кожнаму з касцоў і яго сям'і адведзены асобны надзел. Сярод дзяцей ходзяць легенды, што «там начуюць у буданах з сена, ядуць каля вогнішчаў, расказваюць розныя гісторыі, там Прыпяць, у якой столькі рыбы, што яна сама выскоквае з вады на бераг». На самай справе ўсё не так фантастычна, але вельмі блізка да чароўнага апісання. Праца героя кожны дзень кіпіць, але і адпачываць сяляне ўмеюць — хто каля вогнішча, хто за купаннем.

Аўтар чуйна перадае народныя звычкі, манеру размаўляць, але галоўнае — той братэрскі дух, які дапамагае людзям аб'ядноўвацца дзеля агульнай справы. І ўсё гэта на фоне такіх пейзажаў, ад якіх шчыміць сэрца. Белы туман над ракой, бязмежная зялёная прастора — сапраўдныя палескія джунглі. Глыбокая і цёмная вада Прыпяці, чарот, з якога можна рабіць пацешныя шаблі ці смешныя букеты, пакуль пух не пасыплецца. «Поўнае валадарства дзікай прыроды, аддадзенай самой сабе, царства амаль не кранутай чалавекам першабытнасці», — вось што адчуваецца найбольш ярка і поўна ў гэтым творы.

Не адразу аўтар знаёміць з персанажамі. Паступова перад позіркам чытачоў раскрываецца вобраз Кулініча — мускулістага, чарнявага мужчыны гадоў за сорак, які, здавалася б, шчаслівы, але ці надоўга? Знаёміць аўтар і з малодшым братам героя, Пятром, надзвычай добрым малым з салодкай, дзіўнай для вясковага мужчыны мянушкай — Кветка. Нягледзячы на бяскрыўдны нораў, ён горкі п'яніца з двума дзецьмі, які не спраўдзіў сваіх мар…

Працягвае галерэю вобразаў таямнічы Грыша Ігнатаў — дзевятнаццацігадовы хлопец, які адседзеў у турме за бойку, а зараз, гнаны пачуццём віны, хаваецца ў сабе, нават не ўздымае вачэй, сароміецца ўсяго навокал. Аўтар сцвярджае, што ён сын ведзьмака — старога вялізнага росту з барадой да пояса, які зімой і летам хадзіў босы і, як прывід, толькі ў белым, жыў у лясной зямлянцы і ведаў мову звяроў, птушак, дрэў.

Прыгажосць герояў не толькі ў іх каларытных якасцях, нечаканым раскрыцці характараў, але і ва ўменні кожнага поўна адчуваць жыццё, якое хаваецца ў звычайных рэчах — стракатанні конікаў, полымі вогнішча... Што стала з імі потым, як змяніўся іх лёс пасля Дзікага Луга? Гэтак жа, напэўна, як мяняецца ў кожнага чалавека, прынясучы то радасць, то гора — і ў гэтым мастацкая, але такая зразумелая і знаёмая рэальнасць.

Возьмем зусім іншы твор са зборніка — «Развітанне» Алены Брава. Кантраст адчуваецца велізарны. Замест маштабных апісанняў у духу Льва Талстога, матыву яднання чалавека з прыродай — іранічны стыль (чаго толькі варта фраза «выцвілыя вочкі вадкага блакіту, як эмалевае неба над вежамі старадаўняга Кайзербурга») і амаль дэтэктыўная таямніца. З першага погляду здаецца, што аповесць — пра звычайную жаночую долю. Але пісьменніца не апускаецца да банальнасці. На гэты раз, хоць у тое цяжка паверыць першыя старонак трыццаць, яна раскажа чытачам пра вайну і боль.

Неадназначная карціна паўстане дзякуючы людзям з паралельных бакоў «барыкад»: жанчыны з нялёгкім лёсам, чыя бабуля хавалася з дзецьмі ў балоце ад нямецкіх паліцаяў, і таго, хто быў сярод захопнікаў, але любіў беларускую дзяўчыну ўсім сэрцам і спрабаваў ратаваць мірных людзей. З тых часоў мінула шмат гадоў, але дзённік нямецкага салдата, у сучаснасці сур'ёзна хворага старога, пераварочвае светаўспрыманне не аднаго чалавека.

Кожнае новае пакаленне імкнецца пазбавіцца ад памяці пра мінулае як ад старога хламу, кажа аўтар. Алена Брава нагадвае, што так рабіць нельга. Не пафаснымі словамі — а кранаючы нешта патаемнае, схаванае ў душы.

Трэці твор — «Геній» Алега Ждана. Развагі чалавека, які не наладзіў адносін са светам, лічыць сябе абраным, лепшым — вось, бадай, максімальна кароткае апісанне «буры», што разгортваецца ў аповесці на фоне савецкай эпохі. Пісьменнік паказвае: не бывае добрых і кепскіх людзей — у кожным ёсць і тое, што адштурхвае, і тое, што вабіць. Пакуты творчасці не зразуметага іншымі мастака, які не хоча паказваць прылізаную, узорную прыгажосць, паўстае супраць сістэмы, бясспрэчна, імпануюць. «Свет ужо даўным-даўно ідзе не туды і не так…» — гэтая фраза, як і ўвесь твор, можа быць добрым сігналам абуджэння для тых, хто ў штодзённасці, руціне страціў уласнае «я»... Выхаванне кнігай — адно з самых дзейсных!

**Марыя ВОЙЦІК**

# Навінкі кнігавыдання

**Выданні для моладзі.**
**Дзіцячая, юнацкая літаратура**

**Кошевар, Д. В.** Животные: [для младшего и среднего школьного возраста] / Д. В. Кошевар. — Москва: АСТ, 2014. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086607-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3426-2 (Харвест) (в пер.).

**Кошевар, Д. В.** Земля: [для младшего и среднего школьного возраста] / Д. В. Кошевар. — Москва: АСТ, 2014. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086608-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3424-8 (Харвест) (в пер.).

**Платонова, А. Ф.** Святая равноапостольная мироносица Мария Магдалина / [Платонова Александра Федоровна]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 24 с. — Издано при участии ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-723-1.

**Святой апостол Андрей Первозванный Небесный покровитель Руси** / [пересказала для детей Медведева Ольга Александровна]. — 6-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 16 с. — Издано при участии ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-767-5.

**Сказки-загадки:** [книжка]-раскраска: [для младшего школьного возраста]. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2014. — 10 с. — 5000 экз.

**Спектор, А. А.** Насекомые: [для младшего и среднего школьного возраста] / А. А. Спектор. — Минск: Харвест, 2014. — 63 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-3308-1 (в пер.).

**Спектор, А. А.** Растения: [для младшего и среднего школьного возраста] / А. А. Спектор. — Минск: Харвест, 2014. — 63 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-3309-8 (в пер.).

**Энциклопедия маленького профессора:** о медведях, хомяках, белках, зубрах и ежах: [для младшего школьного возраста / составитель Жуковская Татьяна Ивановна]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 101 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0801-1.

**Мастацкая літаратура на асобных мовах**

**Нямецкая літаратура**

**Майрынк, Г.** Ноч Вальпургіі = Walpurgisnacht; Белы дамініканец = Der weiße Dominikaner: раманы / Густаў Майрынк; пераклад з нямецкай [мовы Васіля Сёмухі]. — Мінск: Зміцер Колас, 2014. — 317 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6992-48-6 (у пер.).

**Італьянская літаратура**



***Дилан Дог. Возвращение монстра: [книга комиксов / перевел с итальянского Пугач Денис; автор идеи и сценария: Тициано Склави; художник Луиджи Пиккато]. — Пинск: Пугач Д. М., 2014. — 98 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-90341-1-4.***

*Гэта праект, унікальны для Беларусі. Толькі ўявіце: хлопец з Пінска, які з дзяцінства ведае італьянскую мову, заснаваў у родным горадзе ўласнае выдавецтва і займаецца падрыхтоўкай, перакладам і выпускам серыі італьянскіх коміксаў «Дзілан Дог». Неверагодна! Шкада, што гэтыя выданні яшчэ не надта запатрабаваныя на айчынным рынку, таму і наклад коміксаў параўнальна невялікі. Але, думаецца, перакладчыка і выдаўца яшчэ чакае поспех і прызнанне беларускага чытача.*

**Руская літаратура**

**Большаков, В. П.** Командор / Валерий Большаков. — Москва: АСТ, 2014. — 346 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-086261-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3537-5 (Харвест) (в пер.).

**Літаратура Беларусі на рускай мове**

**Атавина, Ж. В.** Дневник спортсмена. Жизнь, как матч: роман / Жанна Атавина. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 249 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-68-0.

**Баирова, В. В.** Oblivion: [сборник стихов] / Виктория Баирова. — Минск: Белпринт, 2014. — 89 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-459-329-6.

**В строке застывшее мгновенье:** [сборник стихов / составитель В. П. Попова]. — Минск: Ковчег, 2014. — 216 с. — Часть текста на белорусском языке. — 155 экз. — ISBN 978-985-7086-74-0 (в пер.).

**Вашкевич, Э. В.** Дорога к Серебряным Водопадам: роман / Эльвира Вашкевич. — Минск: Звязда, 2014. — 287 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7083-22-0 (в пер.).

**Веремев, А. В.** Десять шагов до неба: стихи / Андрей Веремев. — Минск: Ковчег, 2014. — 67 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-69-6.

**Воронин, А. Н.** Антикварное золото: ставка на вечность: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 318 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3547-4 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Банда возвращается: [он сражался за Родину: роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 478 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3463-7 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Кроссворд для Слепого: ставка на вечность: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 319 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3544-3 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Могила тамплиера: [ставка на бессмертие: роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 319 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3498-9 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Ночной дозор: [нас похоронят в одной могиле: роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 445 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3464-4 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Охота на отражение: ставка на море: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 350 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3546-7 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Формула смерти: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 318 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3497-2 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Черная месса: ставка на Бога: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 351 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3545-0 (в пер.).

**Грищенко, Ж. М.** Время абсента: роман / Жанна Грищенко. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 447 с. — 1030 экз. — ISBN 978-985-17-0850-1 (в пер.).

**Дезидерий, У.** Мое одиночество начинается в твоих объятиях: философско-эротический роман, сотканный из афоризмов, мудрых мыслей, сентенций, крылатых изречений людей великих, средних и профессора философии, влюбившегося в весьма зрелом возрасте в юную девицу и тщетно стремящегося с помощью приобретенного мудромыслия опровергнуть законы страсти нежной ... / Ульян Дезидерий. — Гомель: Барк, 2014. — 175 с. — 1000 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-7065-20-2 (ошибоч.).

**Денисова, Н. И.** Я славлю жизнь: стихи и песни / Нина Денисова; [редакторы: Михаил Зудилов, Галина Сташкевич]. — Полоцк: Полоцкое книжное издательство, 2014. — 79 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6936-69-5.

**Дорошевич, В. Н.** Пороки и воздаяние: рассказы и эссе / Владимир Дорошевич. — Минск: Четыре четверти, 2014. — 206 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7103-10-2.

**Закладный, С. А.** Я люблю Беларусь: сборник стихов / Сергей Закладный. — Борисов: Борисовская укрупненная типография, 2014. — 93 с. — 56 экз. — ISBN 978-985-90291-3-4.

**Иванова, А. А.** Мечта навынос: роман / Анастасия Иванова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 322 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-44-4 (в пер.).

**Казеко, А.** Перекрестки судеб: сборник поэзии / Алесь Казеко. — Минск: Виктор Хурсик, 2014. — 226 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7025-31-2 (в пер.).

**Касатонов, В. Ф.** Мы из подводного космоса: (проза) / В. Ф. Касатонов. — Брест: Альтернатива, 2014. — 341 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-521-447-3.

**Кореневский, А. В.** Минские волны = Мінскія хвалі: поэтический альбом / Александр Кореневский; [фотографии, графика и живопись Кореневского А. В.]. — Минск: Ковчег, 2014. — 81 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-64-1.

**Куис, О. И.** Отражение души: стихи / Ольга Куис. — Минск: Ковчег, 2014. — 79 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-68-9.

**Лебедько, М. А.** Белое и черное: стихи / М. А. Лебедько (Янковская). — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 94 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-56-7 (в пер.).

**Львов, П. С.** Космическая академия: в поисках дома: фантастическая повесть / Павел Львов. — Минск: Беларусь, 2014. — 207 с. — 1700 экз. — ISBN 978-985-01-1102-9.

**Маркова, И. В.** Записки заурядной личности: киноповесть / Ирина Маркова; [художник Елена Карпович; стихи Вероники Долиной]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 100 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-31-4 (в пер.).

**Матвиеня, А. П.** Двуязычие чувств: библиотерапия (проба стиха) / Александр Матвиеня. — Минск: Зорны Верасок, 2014. — 208 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-7068-27-2.

**Мишнева, Г. Ф.** Повесть о пережитом / Галина Мишнева. — Минск: Смэлток, 2014 — ISBN 978-985-6998-42-6.

Кн. 1. — 2014. — 401 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6998-43-3.

Кн. 2. — 2014. — 389 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6998-44-0.

**Моисеев, В. С.** ВЛАМО: [новеллы, притчи, афоризмы, графические этюды / Моисеев Владимир Стефанович]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 242 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7092-37-6.

**Наумович, В. А.** «Нет», и как его сказать: роман / Владимир Наумович. — Минск: Звязда, 2014. — 310 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7083-55-8 (в пер.).

**Немцев, В. С.** Все венчает любовь: сборник стихов / В. С. Немцев. — Минск: Религиозная община евангельских христиан баптистов «Церковь Пробуждение»; Steinhagen: Samenkorn, 2012. — 127 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6184-49-2 (Религиозная община евангельских христиан баптистов «Церковь Пробуждение»). — ISBN 978-3-86203-081-1 (Samenkorn) (в пер.).

**Поликарпова, И. А.** Отголоски: поэзия / Ирина Поликарпова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 61 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7092-53-6.

**Радионова, Г. В.** Азбука озарения: женская лирика / Галина Радионова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 129 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-70-3.

**Ремнева, А. А.** Звезды в горсти: избранная лирика / Анна Ремнева; [составление – Галина Ремнева, Кастусь Северинец]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 299 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7092-51-2 (в пер.).

**Савицкая, О. В.** Декорации сна: лирика / Ольга Савицкая. — Минск: Ковчег, 2014. — 69 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-65-8.



***Трафимова, Г. В. Ребятам о домашних кошках: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — Минск: Народная асвета, 2014. — 61 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-2346-0.***

*Серыя пазнавальных кніг для дзяцей «Расказы Дзеда Прыродазнаўцы» працягваецца. На гэты раз аўтары звярнулі ўвагу на знаёмых і ў той жа час надзвычай загадкавых істот — свойскіх катоў. Пагадзіцеся, пра тых, каго любім карміць, гладзіць і чыё муркатанне закалыхвае і супакойвае, мы ведаем не так шмат. Якія пароды катоў самыя распаўсюджаныя? Чым лепш карміць пухнатых гадаванцаў? Як правільна дагледзець катоў? Пра гэта і многае іншае распавядзе Дзед Прыродазнаўца. А гульні і заданні, змешчаныя ў канцы кнігі, дапамогуць маленькім чытачам паўтарыць і лепш запомніць звесткі пра іх ласкавых ці капрызлівых гадаванцаў.*

**Семенович, Н. Н.** Черемуховая вьюга: стихи / Нина Семенович. — Минск: Ковчег, 2014. — 132 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7086-81-8 (в пер.).

**Смольская, О. И.** Побег: роман / Ольга Смольская. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 151 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-33-8.

**Чергинец, Н. И.** Кровавые метры: [роман] / Чергинец Н. И. — Минск: Харвест, 2014. — 319 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3499-6 (в пер.).

**Чергинец, Н. И.** Рискованная игра: [роман] / Чергинец Н. И. — Минск: Харвест, 2014. — 319 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3500-9 (в пер.).

**Чернова, Е. В.** Нить Ариадны: стихи / Елена Чернова. — Минск: Ковчег, 2014. — 87 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-55-9.

**Шапиро, Е. Я.** Строчки разных лет...: избранная лирика / Е. Я. Шапиро. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 197 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-52-9.

**Шашко-Шаблинская, С. Л.** Счастье покаяния: стихи / С. Л. Шашко-Шаблинская; [автор предисловия: Корбут В.]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 107 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-36-9 (в пер.).

**Эхо нашей Победы:** к 70-летию освобождения Беларуси и Горецкого района от немецко-фашистских захватчиков: [очерки, рассказы, стихи, поэма] / составление: Дерюжкова Л. Н.]. — Минск: Белпринт, 2014. — 279 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-459-320-3.

**Ярославцев, К. Н.** С чистого листа: поэзия / Константин Ярославцев. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 95 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-43-7 (в пер.).

**Беларуская літаратура**

**Атрошчанка, Г. М.** Ларыскіны ўспамінкі: проза: [аповесці, апавяданні, замалёўкі, публіцыстыка] / Ганна Атрошчанка. — Мінск: Ковчег, 2014. — 144 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-15-3 (у пер.).

**Багдановіч, М.** Творы / Максім Багдановіч; [укладанне і каментарыі Ю. В. Пацюпы]; навуковы рэдактар А. С. Ліс. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 669 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1591-8 (у пер.).

**Высоцкі, Ю. С.** За край бацькоўскі, за Радзіму: дакументальныя аповесці / Юліян Высоцкі. — Мінск: Звязда, 2014. — 293 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-7083-70-1 (у пер.).

**Гаманлівае дрэва любові:** выбраныя творы / [рэдкалегія: Мікола Трафімчук (галоўны рэдактар) і інш.]. — Мінск: Смэлтак, 2014

Кн. 1. — 2014. — 285 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 250 экз. — ISBN 978-985-6998-41-9 (у пер.).

**Грыцкевіч, А. А.** Адлюстраванні: паэмы і вершы / Аляксандра Грыцкевіч. — Мінск: Ковчег, 2013. — 326 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 60 экз. — ISBN 978-985-7055-36-4 (у пер.).

**Дзеравянка, А.** Гасцяванне ў Налібоках: апавяданні, навелы, абразкі, лірычныя мініяцюры / Алесь Дзеравянка; [прадмова Алеся Карлюкевіча]. — Мінск: Віктар Хурсік, 2014. — 139 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-7025-33-6.

**Караткевіч, У. С.** Збор твораў: у 25 т. / Уладзімір Караткевіч; рэдкалегія: Алесь Бельскі [і інш.; прадмова, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Анатоля Вераб'я]; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Філалагічны факультэт. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012 — ISBN 978-985-02-1366-2 (у пер.).

**Т. 7: Каласы пад сярпом тваім:** раман / рэдактар тома Алесь Бельскі; [падрыхтоўка тэксту і каментарыі Валянціны Андрэевай]. — 2014. — 788 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1593-2.

**Карызна, У. І.** Зарніцы дзяцінства: выбранае / Уладзімір Карызна. — Мінск: Звязда, 2014. — 254 с. — 2019 экз. — ISBN 978-985-7083-76-3 (у пер.).

**Ліхадзіеўская, А. А.** Зоркай спавітая: зборнік вершаў / Алена Ліхадзіеўская. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 175 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-79-6 (у пер.).

**Мароз, У. В.** Крыжы на ростанях: кніга вершаў / Уладзімір Мароз; [мастак Марына Мароз; фота Аляксандра Уласава]. — Мінск: Зміцер Колас, 2014. — 126 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-6992-47-9.

**Па закліку сэрца:** зборнік твораў студэнтаў і супрацоўнікаў БДАТУ: да 60-годдзя стварэння Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта / Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны аграрны тэхнічны ўніверсітэт, Аддзел выхаваўчай работы з моладдзю; [укладальнік Т. М. Вашчаева ; пад агульнай рэдакцыяй І. М. Шылы]. — Мінск: БДАТУ, 2014. — 157 с. — Частка тэксту на англійскай, іспанскай, нямецкай, рускай і французскай мовах. — 100 экз. — ISBN 978-985-519-685-4.

**Пад Купалавай зоркай:** вершы паэтаў Лагойшчыны / [укладальнік Несцяровіч Віктар Антонавіч]. — Мінск: Печанко А. Г., 2014. — 175 с. : іл. ; 21 см. — Частка тэксту на рускай мове. — 500 экз. — ISBN 978-985-7053-32-2 (у пер.).

**Паўлаў, С. Я.** Тэрапія смехам: сатыра і гумар / Савелій Паўлаў. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 168 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-12-6.

**Пашкевіч, М. І.** Вера: дакументальна-мастацкая аповесць / Мікалай Пашкевіч. — Брэст: Альтернатива, 2014. — 137 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-521-436-7.

**Рагавая, Г. А.** Залатыя сходні: [вершы] / Галіна Рагавая; [аўтар прадмовы Ганна Атрошчанка]. — Мінск: Ковчег, 2014. — 94 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-35-1.

**Скрыган, Я.** Добра, што я іх ведаў: [апавяданні-ўспаміны] аб часе, падзеях, людзях / Ян Скрыган; [укладанне, прадмова Галіны Скрыган]. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 223 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-81-9 (у пер.).

**Сліва, М.** Жыццё на Парнасе: гумар / Міхась Сліва. — Мінск: Ковчег, 2014. — 63 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-85-6.

**Стадуб, А.** Мільянерка: апавяданні / Алесь Стадуб. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 86 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7089-86-4.

**Студэнцкі Парнас:** зборнік навуковых і творчых работ / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт, Факультэт міжнароднага супрацоўніцтва, Кафедра беларускай і рускай моў ; [укладальнікі: І. У. Будзько, Л. А. Гіруцкая]. — Мінск: Права і эканоміка, 2014

Вып. 1. — 2014. — 133 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-552-330-8.

**Сыс, С.** Павук: вершы / Сяржук Сыс. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 95 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7021-58-1.

**Хадасевіч, В. А.** Вершаваная проза / Вацлаў Хадасевіч; [аўтар прадмовы Казімір Камейша]. — Мінск: Белпринт, 2014. — 59 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 66 экз. — ISBN 978-985-459-330-2.

**Шніп, В. А.** Першы папяровы снег: выбранае (1978–2008) / Віктар Шніп. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 263 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-01-0 (у пер.).

**Літаратура Беларусі на польскай мове**

**Бобко-Алешкевич, В. В.** И все-таки я деревенская: [стихи] / Валентина Бобко-Алешкевич. — Минск: Ковчег, 2014. — 234 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-63-4 (в пер.).

**Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва**

**Баюшки-баю:** [русские народные колыбельные: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0847-1.

**Беляночка и Розочка:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2014. — 18 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-851-4.

**Большая книга песен для детей**: [для младшего школьного возраста]. — Москва: АСТ, 2014. — 151 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-071830-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3404-0 (Харвест) (в пер.).

**Гном Тихогром:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2014. — 18 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-852-1.

**Госпожа Метелица:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2014. — 18 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-853-8.

**Катаев, В. П.** Цветик-семицветик: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / В. Катаев; [художники-постановщики: Л. Мильчин и В. Роджеро]. — Москва: АСТ, 2014. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-078196-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2086-9 (Харвест) (в пер.).

**Королек и Медведь:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2014. — 18 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-854-5.

**Король Дроздоборода:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2014. — 18 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-855-2.

**Лауцюс, Я.** Как ветер зажигает огни: [для младшего и среднего школьного возраста] / Яронимас Лауцюс; [художник Владислав Ярославцев]. — Минск: Звязда, 2014. — 29 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7083-56-5.

**Лермонтов, М. Ю.** Стихи: [для младшего школьного возраста] / М. Ю. Лермонтов; художник Ю. Николаев. — Москва: АСТ, 2014. — 78 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-094563-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3509-2 (Харвест) (в пер.).

**Мальчик-с-пальчик:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2014. — 18 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-856-9.

**Матюшкина, К.** Кот да Винчи. Ограбление банки: [повесть-сказка: для младшего школьного возраста] / Катя Матюшкина; [художник Катя Матюшкина]; стихи А. Тимофеева. — Москва: АСТ, 2014. — 182 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-078764-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3332-6 (Харвест) (в пер.).

**Матюшкина, К.** Трикси-Фикси. Волшебница Злюня и ее пакости: [для среднего школьного возраста / Катя Матюшкина; иллюстрации Валерия Новоселова и Кати Матюшкиной]. — Москва: АСТ, 2014. — 60 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-078688-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1554-4 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Дядя Степа – милиционер: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / Сергей Михалков; художник-постановщик Л. Шварцман. — Москва: АСТ, 2014. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-077227-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1773-9 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Сказки: [для дошкольного возраста] / С. Михалков; художник И. Цыганков. — Тула: Родничок; Москва: АСТ, 2014. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-89624-587-2 (Родничок). — ISBN 978-5-17-086017-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3406-4 (Харвест) (в пер.).

**Погорельский, А.** Черная курица, или Подземные жители: [сказочная повесть: для младшего школьного возраста] / Антоний Погорельский; художник Ю. Трофимов. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 61 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-087365-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3486-6 (Харвест) (в пер.).

**Радость:** [стихи, скороговорки, песенка] / рисунки С. Бялковской. — Москва: АСТ, 2014. — 43 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-086119-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3403-3 (Харвест) (в пер.).

**Распэ, Э.** Прыгоды барона Мюнхаўзена / Эрых Распэ. Браты Львінае Сэрца / Астрыд Ліндгрэн: [да зборніка ў цэлым: для малодшага школьнага ўзросту]. — Мінск: Звязда, 2014. — 172 с. — 18219 экз. — ISBN 978-985-7083-73-2 (у пер.).

**Самые любимые писатели детям:** [для дошкольного возраста] / рисунки В. Сутеева. — Москва: АСТ, 2014. — 44 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084833-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3437-8 (Харвест) (в пер.).

**Сапожник и гномы:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2014. — 18 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-857-6.

**Ситников, Ю.** Улика на память: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2015. — 253 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-949-8 (в пер.).



***Казлоў, А. С. Той, хто абганяе сны: аповесці / Анатоль Казлоў; [мастак Анастасія Капульцэвіч]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 284 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1601-4 (у пер.).***

*Празаік Анатоль Казлоў любіць глыбока даследаваць самыя патаемныя куткі душы чалавека. У сваіх аповесцях і раманах ён выяўляе страхі, задушаныя жаданні, схаваныя ў падсвядомасці вобразы. Тэмай новай кнігі стала здрада каханаму чалавеку. Як пачуваецца чалавек, якому здрадзілі? Што рабіць здрадніку, каб атрымаць дараванне? І ўвогуле, ці магчымае шчаслівае сумеснае жыццё пасля здрады? Доўгі роздум над гэтымі пытаннямі і пошук адказаў на іх — у новай кнізе аўтара.*

# Уліс з палескай вёскі

## Суб’ектыўны погляд чытача на тэтралогію Уладзіміра Гніламёдава

**Якія пісьменнікі вядомыя ў сучаснай беларускай літаратуры? Ці ёсць кнігі, што зацікавілі б моладзь? Такія пытанні ўздымаюцца не адзін год. А што думае пра літаратуру чытач? Па якіх крытэрыях выбірае чытво для сябе і сваіх блізкіх?**

Па прафесіі я — філолаг і не адзін год адкрываю для сябе аўтараў, чые выданні можна парэкамендаваць і для вывучэння ў школе. Для дзяцей галоўнае, каб кніга была цікавая, мела навучальны і пазнавальны сэнс, чыталася лёгка, захапляла сюжэтам. Няўжо няма твораў, якія маглі б зацікавіць сённяшняе маладое пакаленне? Ёсць!

У лютым мы адзначалі гадавіну з дня нараджэння Івана Мележа. Вяршыня творчасці гэтага пісьменніка — трылогія «Палеская хроніка», што склалася з раманаў «Людзі на балоце» (1961), «Подых навальніцы» (1964), «Завеі, снежань» (1976, не закончаны), у якой аўтар раскрыў сілу і харавство жыцця працоўнага беларуса, паказаў непаўторнасць прыроды палескага краю, выявіў драматызм сацыяльна-грамадскіх працэсаў даваенных гадоў. Гэта класіка айчыннай літаратуры, якая вывучаецца і будзе чытацца дзецьмі ў школе яшчэ доўга. Тут і традыцыйныя святы, і мова, і гісторыя, і побыт людзей.

Аднак і сёння можна знайсці творы, якія распавядаюць пра лёс краіны. І гэта, безумоўна, новы цыкл раманаў выбітнага літаратуразнаўцы, акадэміка НАН Беларусі Уладзіміра Гніламёдава, які аб’ядноўвае творы «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008), «Валошкі на мяжы» (2014), «Вайна» (2014), ён стаў сапраўднай культурнай з’явай краіны. Працяг гэтага цыкла друкуецца цяпер у часопісе «Полымя» — раман «Пасля вайны».

У раманах У. Гніламёдава адчуваецца пераемнасць стылю Івана Мележа. У 1984 г. у крытыка выйшла кніга «Іван Мележ: нарыс жыцця і творчасці», дзе аўтар аналізуе творы пісьменніка, раскрывае своеасаблівасць яго таленту. Як тонка адзначыў крытык: «А колькім літаратарам ён (Мележ) даў у свет дарогу! Маладых, ды і не толькі маладых натхнялі яго творы...». І праз столькі гадоў можна смела сказаць, што гэтае натхненне паўплывала і на самога даследчыка. Як чытач вызначыла б, што раманы У. Гніламёдава здзіўляюць глыбінёй, шырынёй паказу жыцця беларускага краю, прычым распавядаецца ў іх пра доўгі гістарычны перыяд, які ахоплівае значныя адрэзкі гісторыі краіны: выезд беларусаў на працу ў ЗША, Першая сусветная вайна, бежанства ў Расію ў 1915 г., жыццё ў Заходняй Беларусі пад уладай Польшчы, Вялікая Айчынная вайна, пасляваенны час. Цікава, пра які перыяд жыцця Беларусі аўтар будзе пісаць далей?




У эпапеі распавядаецца пра жыццё жыхароў маленькай палескай вёсачкі Пруска, а цэнтрам мастацкай прасторы з’яўляецца гісторыя сям’і Кужалёў. Асабліва вылучаюцца асобы Лявона і Фёклы Кужалёў, прататыпамі якіх сталі бабуля і дзядуля самога пісьменніка. Разам з гісторыяй свайго роду пісьменнік апісвае і жыццё роднай вёскі, а праз яе — усяго народа.




У першых раманах дзеянне ў асноўным засяроджана на жыцці галоўнага героя — простага палескага хлопца, пра гэта гаворыць і назва рамана — «Уліс з Прускі». Прозвішчы герояў гаваркія: лёс тчэ і тчэ вакол Лявона выпрабаванні. У рамане «Валошкі на мяжы» ён паўстае як сталы гаспадар, заможны селянін, які не цураецца працы, сем’янін, мудры чалавек, з меркаваннямі якога лічацца вяскоўцы. Так і жыве Лявон, параўноўваючы ўвесь час жыццё на радзіме і ў Амерыцы. Ён бачыць нялёгкае становішча беларускага селяніна, яго стомленасць у параўнанні з актыўнасцю амерыканцаў, бо там «людзі іншыя, больш дзейныя, дзелавыя». У адказ на думкі Лявона ў рамане «Вайна» з вуснаў мясцовага «мудраца» Павала Гальяша прагучалі такія словы: «...Мы аслабелыя. У кожную вайну, а іх прыдбала сюды шмат, трэць народу гінула. А за што? За каго? Ды і паміж сваімі шмат сварак было. Але мы ўсё ж такі не стаміліся жыць».

Першыя два раманы цыкла распавядаюць пра жыццё беларусаў за мяжой, у эміграцыі. У рамане «Уліс з Прускі» галоўны герой сапраўды нагадвае падарожніка, Уліса, Адысея. Ён едзе ў Амерыку, каб зарабіць грошай і вярнуцца да сваёй каханай. Праводзіць там доўгія сем гадоў, за гэты час дзяўчына выходзіць замуж за іншага. Шмат перашкод, выпрабаванняў і прыгод сустракае герой на чужыне, бо зарабіць грошы цяжка і ў Амерыцы. Цікавы погляд на гэтую краіну вачыма беларускага селяніна. Дарэчы, на працягу ўсяго цыкла раманаў герой выступае як добры знаўца традыцый, жыцця беларусаў, амерыканцаў, рускіх, яўрэяў.

Другі раман — «Расія» — ахоплівае час з 1915 па 1922-гі. Пасля вяртання з Амерыкі Лявон змог пражыць на радзіме толькі год — пачалася Першая сусветная вайна. Наступаў немец, і паступіў загад усім праваслаўным людзям рухацца на захад, у Расію. Так Лявон разам са сваімі аднавяскоўцамі становіцца бежанцам, знаёміцца з побытам жыхароў заволжскай самарскай вёскі Запалоннае. Тут ён сустракае сваю будучую жонку — Фёклу Платонаву, удаву, якая разам з сынам едзе ў Беларусь следам за сваім каханым. Жанчына працавітая, вясёлая, смелая, аўтар гаворыць пра яе яшчэ і так: «Яна належала да тых жанчын, якія б, куды ні трапілі, заўсёды ўмелі навесці вакол сябе парадак». У рамане «Валошкі на мяжы» У. Гніламёдаў прыводзіць лісты яе сястры, якія Кужалі атрымліваюць пасля цэнзурнага прагляду. Адчуваецца туга жанчыны па родным краі.

*Праз усе раманы праходзіць вобраз Кузёмкі — падарожніка, краўца, у Прусцы яго называлі «брадзяшчым філосафам», які ходзіць па краіне, назірае за навакольным жыццём, расказвае пра свае ўражанні Лявону і Фёкле. Гэта мудры чалавек, які любіць паразважаць пра будучыню, інтэрпрэтуючы па-свойму. У рамане «Валошкі на мяжы» вылучаецца вобраз Васіля Платонава, які ў апавядальнай лініі стане пераемнікам Лявона. Ён — прадаўжальнік роду, прадстаўляе ўжо новае пакаленне — савецкіх людзей.*

Раманы «Вяртанне» і «Валошкі на мяжы» прысвечаны жыццю Заходняй Беларусі. Творца змог паказаць, як жыў народ на Берасцейшчыне, «Усходніх крэсах». У рамане «Вяртанне» Лявон Кужаль з сям’ёй праз сем гадоў вяртаецца на радзіму. Лічба сімвалічная, бо з Амерыкі герой таксама вяртаецца праз сем гадоў. Гэта ўжо іншая краіна, якая знаходзіцца пад уладай Польшчы, і трэба нанава будаваць сваё жыццё. У час бежанства памерлі яго маці, сястра і дзед, цяпер ён адказны за лёс сваіх сясцёр. Акрамя мірнага жыцця сялян Прускі, аўтар апісвае і палітычныя падзеі, якія адбываліся ў Заходняй Беларусі ў той час — рэвалюцыйны і падпольны рух за вызваленне. Эпапея можа прэтэндаваць на жанр гістарычнага твора, бо тут адлюстроўваюцца вобразы рэальных гістарычных асоб — падпольшчыкаў, вядомых людзей, якія непасрэдна не ўведзены ў сюжэтнае дзеянне.




*Раманы У. Гніламёдава здзіўляюць глыбінёй, шырынёй паказу жыцця беларускага краю, прычым распавядаецца ў іх пра доўгі гістарычны перыяд, які ахоплівае значныя адрэзкі гісторыі краіны: выезд беларусаў на працу ў ЗША, Першая сусветная вайна, бежанства ў Расію ў 1915 г., жыццё ў Заходняй Беларусі пад уладай Польшчы, Вялікая Айчынная вайна, пасляваенны час. Цікава, пра які перыяд жыцця Беларусі аўтар будзе пісаць далей?*

У рамане «Валошкі на мяжы» спакойны расповед пра размеранасць жыцця. Пісьменнік засяроджаны на перадачы гістарычных падзей, паўсядзённасці вёскі. Згубленую жывасць апавядання кампенсуюць арыгінальна створаныя вобразы. Настаўнік польскай школы пан Мандрашчак, які свята верыць у моц Польшчы, у рамане «Вайна» пачынае служыць немцам. Дачка ўрадніка Канстантага Амелія — дзяўчына лёгкіх паводзін, якая спачатку жыла ў публічным доме, думала, што створана для прыгожага жыцця, раскошы і кахання, аднак у 1939 г. пасля прыходу савецкай улады на тэрыторыю Заходняй Беларусі вымушана вярнуцца дадому ў Пруску, становіцца варажбіткай і швачкай, з тугой успамінае былое вольнае жыццё. Цікавым падаецца вобраз Якава Арыстархавіча Паца — фальваркоўца, заможнага чалавека, які трымае сыраварню, пчэльнік, прадае Лявону зямлю з крухмальняй, дзе Васіль будуе сабе хату, каб аддзяліцца ад бацькоў. Перад пачаткам вайны ён становіцца кумам у Васіля, хросным бацькам яго першага сына, трапляе ў пастарунак. Добра жылося яму пад Польшчай і пад немцамі падчас Вялікай Айчыннай вайны: адкрывае нават краму...

Праз усе раманы праходзіць вобраз Кузёмкі — падарожніка, краўца, у Прусцы яго называлі «брадзяшчым філосафам», які ходзіць па краіне, назірае за навакольным жыццём, расказвае пра свае ўражанні Лявону і Фёкле. Гэта мудры чалавек, які любіць паразважаць пра будучыню, інтэрпрэтуючы па-свойму. У рамане «Валошкі на мяжы» вылучаецца вобраз Васіля Платонава, які ў апавядальнай лініі стане пераемнікам Лявона. Ён — прадаўжальнік роду, прадстаўляе ўжо новае пакаленне — савецкіх людзей.

Раман «Вайна» — працяг эпапеі, выйшаў напярэдадні 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Спачатку друкаваўся ў часопісе «Полымя» пад назвай «Ліхалецце». Услед за Васілём Быкавым у гэтым рамане Уладзімір Гніламёдаў спрабуе перадаць суровую праўду вайны — ваеннае жыццё мірных жыхароў у акупацыі. Упершыню ў мастацкім творы чытаю такое незвычайнае апісанне быту партызан, якія апынуліся ў лясах Заходняй Беларусі ў пачатку вайны. Пражыўшы ў лесе восень і палову зімы, не акрыяўшы як след, атрад перастаў існаваць, быў знішчаны карнікамі.

Цікавы вобраз сібірака Санькі Растатуева, які аказаўся ў акружэнні і жыве ў Кужалёў, дапамагаючы па гаспадарцы. З першых старонак твора мы бачым глыбокія перажыванні Лявона пра лёс, вайну. Аўтар зноў вяртаецца да свайго галоўнага героя.

Увогуле, эпапея вельмі арыгінальная, але вытрымліваюцца традыцыі напісання класічных твораў.

Захапляльны сюжэт і арыгінальнасць адлюстравання свету ў тэтралогіі Уладзіміра Гніламёдава прыйдзецца даспадобы старэйшым школьнікам і моладзі.

**Таццяна ЦІХАН**



# З трыбуны дваццатых гадоў

**Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь прадстаўляе выстаўку «Летапіс часу». Экспазіцыя прымеркавана да 95-годдзя з дня выхаду ў свет штодзённай грамадска-палітычнай газеты «Савецкая Беларусь» (1920). Дэманструецца перыёдыка 1920 — 1940 гг. — арыгіналы газет «Савецкая Беларусь», «Рабочы»і іншыя ўнікальныя матэрыялы.**

Адным з актыўных супрацоўнікаў рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь» быў фінскі мастак Аляксандр Ахола-Вало (Алексантэры Ахола нарадзіўся 27 студзеня 1900 г. у Выбаргскай губерні, памёр 15 верасня 1997 г. у Швецыі), беларускі перыяд творчасці якога ахоплівае мастацкае жыццё 1920 — 1930 гадоў.

У 1927 годзе на старонках выдання былі надрукаваны графічныя партрэты военачальнікаў паходу «сусветнай рэвалюцыі» на Захад Аўгуста Корка і Аляксандра Ягорава, палітычнага дзеяча Іосіфа Уншліхта. Аляксандру Пятровічу пашчасціла маляваць з натуры. У рысах твараў — час вялікіх перамен, ідэйнай барацьбы.

Грамадства працуе над праектамі будучыні. У майстэрнях «Сцвярджальнікаў новага рэвалюцыйнага мастацтва» распрацоўваліся эскізы касмічных гарадоў, праекты аэрапланаў, плошчаў з трыбунамі для рэвалюцыйных правадыроў. У гэтым руху за «новага чалавека» А. Ахола-Вало ці не сапраўдны псіхааналітык: бярэ ўдзел у стварэнні навуковай базы рацыяналізатарскай педагогікі пад назвай «Эвахамалогія», дзе ў аснове — вылічэнне асабістага «індэкса» жыцця.

Другі гістарычны малюнак, які знайшоў месца на першай старонцы «Савецкай Беларусі» 1925 года, — гравюра «Кастрычнік у космасе». Аляксандру Пятровічу ўдалося адлюстраваць дух свайго часу, пакінуць пасля сябе этапныя вобразныя адкрыцці, перадаць ідэю прагрэсіўнага грамадскага развіцця. Кампазіцыя зямнога шара і шасцярні, што рухаецца, — аснова плаката, найбольш характэрная прыкмета мастацтва другой хвалі канструктывізму. У 1961 годзе ў Швецыі А. Ахола-Вало падараваў адбітак гэтага лінарыта першаму савецкаму касманаўту Юрыю Гагарыну. Сёння твор знаходзіцца ў калекцыі музея касманаўтыкі ў Маскве.


Гравюра «Кастрычнік у космасе». 1925 г.

З 1925 года жыццёвы шлях мастака звязаны з Мінскам. Пасля заканчэння Адэскага мастацкага тэхнікума творца актыўна ўключыўся ў справу афармлення вокладак кніг беларускай прозы і паэзіі: «Новая зямля» Я. Коласа, «Хвоі гаворацЬ» К. Чорнага, «Табе» А. Вольнага, «Плыні» А. Грамыкі, «Угрунь» А. Александровіча, «Ветры буйныя» П. Труса, «Вясновы прамень» М. Нікановіча, «Таемны пакет» А. Валодзіна, «Кітай» М. Дуброўскага і інш. У 1927 годзе ў Лейпцыгу на сусветнай мастацкай выстаўцы кнігі разам з творамі В. Дваракоўскага, П. Гуткоўскага, А. Тычыны, Г. Змудзінскага, А. Быхоўскага экспанаваліся творы і А. Ахола-Вало.


Графічны партрэт палітычнага дзеяча Іосіфа Уншліхта.

**Людміла НАЛІВАЙКА, Яўген ШУНЕЙКА**

# У фестывальную сталіцу!

**Учора адбылося ўрачыстае адкрыццё XXIV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Асноўныя тэмы сёлетняга форуму звязаны з ключавымі для Беларусі падзеямі 2015-га — 70-годдзем Вялікай Перамогі і Годам моладзі.**

Першыя мерапрыемствы і канцэртныя праграмы фэсту пачаліся ўжо 7 — 8 ліпеня. Ніколі яшчэ дадатковыя дні не былі настолькі насычаныя падзеямі! Гонар адкрыць культурную праграму форуму выпаў Мастацкаму музею, дзе адбылася прэзентацыя выстаўкі арыгінальных работ Сальвадора Далі і Пабла Пікасо. Гэтымі днямі таксама адкрылася заслона «Тэатральных сустрэч — 2015». У Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа быў паказаны спектакль маскоўскага Губернскага тэатра паводле апавяданняў М. Задорнава «Вясна», а ў канцэртнай зале «Віцебск» — праграма Г. Хазанава пад назвай «Стрэс-канферэнцыя».

Сёлета фестывальная сталіца сустракае 42 краіны-ўдзельніцы. За 23 гады існавання форуму ў гасцінным горадзе на Дзвіне пабывалі прадстаўнікі амаль 70 дзяржаў, аднак такой колькасці краін адначасова на «Славянскім базары» яшчэ не было!

Сёння ў канцэртнай зале «Віцебск» адбудзецца паўфінал XXIV Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск — 2015». Акрамя таго, у праграме фэсту запланаваны канцэрты зорак эстрады і гумару, праект "Зоркі" Шансон-ТБ», праграма «Песня застаецца з чалавекам» з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, канцэртныя і забаўляльныя праграмы для моладзі «Залаты хіт: учора, сёння, заўтра», «Рок-панарама» і інш.

У фестывальныя дні запланавана больш як 100 мерапрыемстваў і праектаў, у тым ліку 18 канцэртаў — у Летнім амфітэатры. Афіцыйнае закрыццё «Славянскага базару ў Віцебску» адбудзецца 13 ліпеня.

**Ганна ШЫМУК**

# Ноч ці дзень?

**Цэнтр сучасных мастацтваў запрашае на выстаўку ірландскага мастака Шона Ханрахана «Калі ноч палохае дзень». Прадстаўлена нізка з шасці вялізных твораў, выкананых у тэхніцы шаўкаграфіі па драўлянай пласціне.**

Шон Ханрахан — графік і друкар па адукацыі. Жыве ў горадзе Корк, ладзіць выстаўкі ў розных краінах свету. Работы ўжо экспанаваліся ў Віцебску і выклікалі вялікую цікавасць гледачоў.

Мастак шмат гадоў захапляецца культурай нашай краіны. Ён упэўнены: у беларусаў і ірландцаў шмат агульнага. Традыцыйнае мастацтва абедзвюх краін містычнае і таямнічае, таму аўтар прадставіў яго ў выглядзе прыцемак і змяркання — памежнага стану дня і ночы.

Творы выкананы ў арыгінальнай тэхніцы мастацкага друку. Асабістыя ўражанні, асацыяцыі, успаміны прадстаўлены праз вобразы лістоты і раслін. Падчас адкрыцця экспазіцыі Шон Ханрахан падкрэсліў, што ў яго работ няма аднаго, канкрэтнага прачытання. Іх можна ўспрымаць па-рознаму.

Адкрыццё выстаўкі стала выдатнай магчымасцю ўзмацніць творчыя і сяброўскія сувязі паміж дзвюма краінамі. Паглядзець на незвычайныя работы можна да 15 ліпеня.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Крыштальнай зоркаю…

**«У нашым калектыве ёсць шмат акцёраў, вартых такой узнагароды», — упэўнена адказала актрыса Жанэта Зарэмба пасля ўручэння ёй прыза «Крыштальная Зорка».**

У свае 75, між тым, ёй ёсць чым ганарыцца. У 1965 годзе Жанэта Канстанцінаўна скончыла Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці «Акцёр драматычнага тэатра і кіно» (курс знакамітага Дзмітрыя Арлова) і была накіравана ў Брэсцкі тэатр драмы і камедыі імя Ленінскага Камсамола, пасля — у Гомельскі абласны драматычны тэатр. А з 1971 года працуе ў Бабруйску ў Магілеўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча.


Сцэна са спектакля «На ростанях дзвюх дарог» з удзелам Жанэты Зарэмба.

Эмацыянальная, ініцыятыўная, таленавітая — яна заўсёды дэтальна працуе над кожнай роляй, а сыграна іх болей як сто: Ампаро («Дом у каланіяльным стылі» К. Дора), Бернарда Альба («Дом Бернарды Альбы» Ф. Лоркі), Кісельнікава («Бездань» А. Астроўскага), Рашэль («Васа Жалязнова» М. Горкага) і іншыя. Кожнае амплуа Жанэты Зарэмба — няпросты лёс жанчыны. Яе гераіні запамінаюцца па глыбіні псіхалагізму, меладыцы мовы, чуллівасці, неўтаймаванасці.

У 2005 годзе мы працавалі з Жанэтай Канстанцінаўнай над роляй Кісельнікавай у «Бездані» Аляксандра Астроўскага. Ганна Усцінаўна, яе гераіня, — ахвяра асабістых жыццёвых памылак. Як выйсці з нядолі і застацца сумленным чалавекам — дылема, перад якой аказваюцца героі п'есы, і толькі ўнучка Ліза — праменьчык надзеі гэтай жанчыны, стомленай жыццём. Слёзы на вачах актрысы, слёзы ў глядзельнай зале…

Жанэта Зарэмба сыграла і шмат казачных персанажаў: Каралеву Аварыю («Ян, Яніна і Каралева Аварыя» Г. Марчука), Фею («Крыштальны туфлік» Т. Габэ), Вясну («Снягурка» А. Астроўскага).

Актрыса шмат працуе ў нядзельнай школе пры царкве святога Георгія, з'яўляецца настаўніцай многіх першапачаткоўцаў тэатра, шчыра дзеліцца багатым акцёрскім досведам.

**Сяргей КАРБОЎСКІ, рэжысёр Магілеўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча**

# Водар кнігі адчуць



**Яронімас Лауцюс — літоўскі пісьменнік, галоўны рэдактар дзіцячага часопіса «Тры зорачкі». Імя яго добра вядомае айчыннаму чытачу. Думкамі пра творчасць і пісьменніцкі набытак спадар Яронімас дзеліцца з чытачамі «ЛіМа».**

— Лічу, што кожны чалавек — творца ўласнага жыцця, таму памылкова называць так толькі пісьменніка. Гэта, хутчэй, назіральнік, якому трэба бачыць вочы і душу чытача. Але пры тым пісьменнік павінен быць азартным, імкнуцца спасцігнуць кожны ўласны крок, спазнаць сябе, каб пасля шчодра дзяліцца сваімі пачуццямі і меркаваннямі з іншымі.

**— Ці ёсць у вас любімая кніга?**

— Калі наведваю выстаўкі, заўсёды цікаўлюся старымі выданнямі. Нядаўна перачытваў творы выбітнага ісландскага пісьменніка Халдора Лакснеса. Ад такой літаратуры не стамляешся — ні пасля другога прачытання, ні пасля трэцяга, нягледзячы на тое, што ў сённяшнім грамадстве кніга пераважна ўспрымаецца не як твор мастацтва, а як тавар.

**— Вы пішаце для дзяцей. Што, на вашу думку, трэба рабіць, каб у камп'ютарны век далучыць дзіця да чытання?**

— Сучасныя дзіцячыя кнігі — з яркімі малюнкамі, у глянцавых вокладках — сапраўднае багацце! І гэтае багацце вельмі важна своечасова даць юнаму першаадкрывальніку ў рукі, каб ён дакрануўся да папяровага выдання, адчуў яго пах. Безумоўна, такому знешняму выгляду кнігі павінна адпавядаць і сэнсавае напаўненне. Важна памятаць: чым менш дзіця будзе чытаць, тым бяднейшым будзе яго ўнутраны свет.

**— А першую прачытаную кнігу памятаеце?**

— Я родам з Панявежскага раёна, і першая прачытаная мною кніга была на літоўскай мове. Ужо ў часы майго дзяцінства, а гэта сярэдзіна мінулага стагоддзя, бібліятэка была ў кожнай літоўскай вёсцы. І нават сёння, калі прыходжу ў бібліятэку, з асалодай удыхаю водар кніг.

**— Як сталі літаратарам?**

— Спачатку працаваў на вытворчасці. Але аднойчы вырашыў: буду пісьменнікам! Здаецца, на «вытворчай» кар'ернай лесвіцы мяне спыніў сам лёс… Сёння на творчым рахунку больш як сотня кніг. А ўвогуле, лічу, што сапраўдны пісьменнік не можа быць толькі пісьменнікам. У жыцці чалавека павінна мець месца не толькі творчасць, але і спецыяльная адукацыя, прафесія, каб ён мог назапасіць пэўны жыццёвы і працоўны досвед.

**Яна ЯВІЧ**

# Пад уплывам класікі

**За плячыма старшыні Саюза пісьменнікаў Арменіі, паэта і празаіка Эдуарда Мілітаняна — больш як тры дзясяткі кніг, сярод якіх — «Месяц у люстэрку» (1976), «Кветка мора» (1984), «Арменія» (1985), «Сямейны канцэрт» (1996) ды іншыя. Працуе Эдуард Георгіевіч і ў галіне дзіцячай літаратуры. З чаго ўсё пачыналася? На гэтае ды іншыя пытанні пісьменнік адказвае карэспандэнту «ЛіМа».**



— З сёмага класа я пачаў выступаць у друку са сваімі вершамі. Калі пасталеў, стаў пісаць кнігі. Сёння 16 з іх перакладзена на розныя мовы свету.

**— Чаму абралі менавіта літаратурную, пісьменніцкую творчасць?**

— У школьныя гады займаўся яшчэ і шахматамі, гуляў у нацыянальнай зборнай Арменіі. Заўсёды добра маляваў. Але літаратура ад пачатку была мне бліжэй, чым спорт і маляванне. З дзяцінства марыў стаць пісьменнікам, таму што літаратарамі былі і старэйшы брат, і дзядзька. Скончыў Ерэванскі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці «Армянская мова і літаратура». Працаваў у рэдакцыях часопісаў — дзіцячага і моладзевага, пазней — галоўным рэдактарам дзіцячага часопіса.

**— Хто аказаў на вас творчы ўплыў?**

— Цяжка сказаць. Я прачытаў шмат класікі, у тым ліку армянскай, нямала кніг па гісторыі, геаграфіі. Мабыць, гэтыя самыя класікі і паўплывалі на мяне найбольш моцна.

**— Якія кнігі любіце чытаць?**

— Самыя розныя. Перавагу аддаю гістарычнай літаратуры, класіцы.

**— Што, на ваш погляд, самае важнае для пісьменніка?**

— Любоў да прыроды, да чалавека, да навакольнага свету. Лічу, што пісаць трэба не толькі пра сябе і для сябе, але арыентавацца на чытача.

**— Якія тэмы сучаснай літаратуры вам блізкія?**

— Тэмы праўды, дабрыні, вечных каштоўнасцей, любові да бліжняга.

**Дана ХОДНІЧ**

## Амантай АХЕТАЎ

# САУЛЕ

*Апавяданне*

Вецер тужліва выў за акенцам, але невялікі ўтульны пакой мякка асвятляў блакітны экран тэлевізара. Зноў паказвалі экіпаж касмічнага карабля. Праз расчыненыя дзверы струменіўся-цвыліў нос пах авечага тлушчу. Старая смажыла ў чыгунку баўрсакі.

На яе зморшчаным, пакрытым рабацiннем твары дрыжалі адбіткі агнёў кухоннай пліты. Святла яна не запальвала і час ад часу зазірала ў пакой, выціраючы хусткай слязлівыя вочы.

Уласна кажучы, мне даўно трэба было пакінуць гэты дом, але я не хацеў пакрыўдзіць гасцінных гаспадароў — без традыцыйнага чаю я, безумоўна, не адважваўся нават і думаць пра знікненне. Нарэшце старая паслала на стале абрус, уключыла святло, і ў пакоі зрабілася весялей. У кутку стаяла этажэрка з падручнікамі і часопісамі.

— Што там, зноў лятаюць? — разліваючы ў белыя піялы чай, спытала старая хутчэй сама сябе, а не прысутных.

— Неўзабаве на Месяц паляцяць нашы, — сказаў яе сын, смуглявы чалавек з грубымі, шурпатымі рукамі, якія так упэўнена трымаюць штурвал камбайна, але робіцца такімі нязграбнымі за сталом. — А мы вось ніяк урадждай сабраць не можам. Надвор'е не спрыяе!

— А я пра што! — адразу ж адгукнулася бабулька. — Даляталіся!

— Ды кінь ты, маці, — засмяяўся сын. — Зноў за сваё!

Я з цікавасцю паглядзеў на старую і чамусьці сказаў:

— А людзі ж ужо на Месяцы пабылі…

— Ага, а як жа! Хто гэта бачыў? Ну, скажы, ты бачыў? — утаропілася ў мяне старая і радасна дадала: — Не бачыў.

І, не даючы нам сказаць слова, працягвала:

— Калі б і сапраўды пабылі на Месяцы, дык сустрэлі б прыгажуню Сауле, абавязкова сустрэлі б.

Я зразумеў, што бабулька ведае нейкую легенду, і яна, бачачы маю цікаўнасць, распавяла:

— Калі ў ясную ноч паглядзець на поўню, дык можна ўбачыць сілуэт дзяўчыны з каромыслам. Як яна там апынулася? Пра гэта цяпер амаль ніхто не ведае. А прыгажуня трапіла туды вельмі даўно, калі ў неабсяжных стэпах панавалі лютыя ханы і баі, калі ад несправядлівасці ды слёз людзі свету не бачылі і ніхто не цікавіўся лёсам гаротніцы Сауле, дачкі беднага табуншчыка.

Бацька любіў і песціў дачку, але ж надта цяжка яму жылося. Захварэла і рана памерла яго жонка — падобная да Месяца прыгажуня Айсулу, — і застаўся ён з адзінай дачкой. Холадна і сумна зрабілася ў апусцелай юрце. Табуншчык увесь час пасвіў байскія статкі недзе




далёка ў стэпах, а маленькую Сауле даглядалі добрыя людзі, сэрцы якіх яшчэ не зрабіліся жорсткімі ад нягод і пакут.

Праз пэўны час бацька прывёў у юрту маладую жонку. Тая адразу ж не палюбіла Сауле, бо дзяўчынка, як і маці, была зграбнай, як дзікая каза, мела густыя чорныя косы і надзвычай прыгожыя вочы, у якіх, здавалася, хаваецца нейкая таямніца. Яшчэ большай зрабілася нянавісць, калі ў мачыхі нарадзілася дачка. Не параўнаць яе было з Сауле. Але мачыха імкнулася схаваць ад людзей прыгажосць падчаркі. Сваю дачку яна апранала добра, для Сауле ж пакідала паношаныя сукенкі, а часцей за ўсё — лахманы. Але суседзі па-ранейшаму любілі і шкадавалі прыгажуню.

Пакутавала Сауле праз свой горкі лёс, але ніколі яе добрае сэрца не крыўдавала на маленькую сястрычку. Яна любіла гуляць з малой, калі быў вольны час, аднак жа такое выпадала рэдка — дзяўчына пастаянна працавала: то кізяк збірала, то ваду насіла. І вось аднойчы прыйшла яна да крыніцы, паглядзела на сваё адлюстраванне ў вадзе і ў глыбокім задуменні пачала разважаць пра свой гаротны лёс. Так і сядзела, сумуючы, ля крыніцы да самай ночы і не заўважыла, як над стэпам, нібы вялікая сярэбраная талерка, узышоў Месяц. Яго ласкавае святло асушыла дзявочыя слёзы, і падалося Сауле, што бачыць яна не паўночнае свяціла, а светлы твар сваёй маці Айсулу. Горка заплакала Сауле і пачала прасіць Месяц, каб забраў яе да сябе: можа, там пазбудзецца яна тугі і будзе з вышыні глядзець на шчаслівых людзей, а можа, і сама пачне дасылаць людзям шчасце і светлыя ночы.

Злітаваўся халодны Месяц з гарачых слёз дзяўчыны. І толькі ўзяла тая на плечы каромысел, як лёгкі стэпавы ветрык прыўзняў яе над крыніцай, панёс над аулам, над табунамі, якія пасвіў бацька, і вось ужо, нібы зоркі, заззялі ўнізе кастры пастухоў.

З таго часу і з'явілася на Месяцы дзяўчына з каромыслам. Відаць, добра ёй там, калі не вярнулася на Зямлю…

— А вы кажаце, на Месяц лятаюць, — урачыста завяршыла свой аповед старая. — Чаму ж тады не сустрэлі Сауле? Яна ж столькі гадоў там адна і, безумоўна, была б радая сустрэчы. Але не кожнаму выпадае трапіць на Месяц. Толькі добрыя людзі з чыстымі, як у прыгажуні Сауле, сэрцамі могуць апынуцца там.

Я пакінуў гэты гасцінны дом, думаючы пра тое, што старая ўсё ж мае рацыю. Толькі добрым людзям са спагадлівай душой выпадае здзейсніць свае мары і жаданні. А яркія зоркі на веранеўскім небе пасяброўску вабілі да сябе, нібы абяцалі радасць новых адкрыццяў.

**Пераклала з казахскай Ірына КАЧАТКОВА**

# Брава, Паставы!

**«На гармонь заўсёды мода, без яе закіснем мы», — запэўнілі на XVIII Міжнародным фестывалі народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік», што традыцыйна прайшоў у г. Паставы Віцебскай вобласці. На свята сабраліся музыкі з усёй Беларусі, а таксама бліжняга замежжа — Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Эстоніі.**



*Ансамбль народнай музыкі і песні «Суседзі» з Брэсцкай вобласці.*

Гісторыя ў фестывалю даўняя. Распачаўся ў 1989 годзе ў Віцебску, з 1992-га трывала ўсталяваўся ў Паставах: тут захаваліся ўнікальныя дыятанічныя цымбалы. Вядома і адмысловая ігра музыкаў з вёскі Груздава, якія шмат рупіліся для развіцця аўтэнтычнай выканальніцкай школы. Напрыканцы 1930-х гадоў стварылі Груздаўскі народны цымбальны аркестр, традыцыі сёння працягвае фальклорны ансамбль «Паазер'е».

Пераемнасць, абмен творчымі напрацоўкамі — адна з галоўных ідэй фэсту. «Для калектываў гэты творчы форум — магчымасць паказаць дасягненні, узяць удзел у конкурсных спаборніцтвах, абмеркаваць тэндэнцыі народнай музычнай культуры», — адзначыў у прывітальным слове міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў. «Місія фестывалю — папулярызацыя народнага мастацтва як найважнейшага складніка нацыянальнай культуры, — заўважыў намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Тадэвуш Стружэцкі. — Ёсць магчымасць пазнаёміцца з культурамі розных краін, але перш за ўсё з нацыянальнай рэгіянальнай культурай Беларусі».

З кожным годам свята прыцягвае новых творцаў і выканаўцаў. На фестывальных пляцоўках горада выступіла больш як 10 тысяч артыстаў. «Мы пасябравалі з многімі калектывамі, паглядзелі на іх традыцыйныя строі, спрычыніліся да іх культуры», — падзяліліся меркаваннямі музыкі квартэта балалаечнікаў «Сітэна» з Расіі. Уразіла мерапрыемства ўдзельнікаў ансамбля народнай музыкі «Добры вечар» Пінскага раёна: фэст, на іх думку, — цудоўны досвед стасункаў.

Дзякаваць за фестываль варта яго заснавальнікам. Сярод энтузіястаў — народны артыст Беларусі, прафесар Міхаіл Казінец; заслужаны работнік культуры, першы рэжысёр свята Уладзімір Таран; заслужаны дзеяч культуры і балетмайстар Іван Серыкаў, старшыня аркамітэта, аўтар праекта і арганізатар Тадэвуш Стружэцкі. Хутка да аднадумцаў далучыліся народны артыст Беларусі прафесар Яўген Гладкоў, дацэнт Беларускай акадэміі музыкі і Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Мірон Була, заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Крамко, кампазітар Віктар Малых. У якасці рэжысёра выступіў прафесар, кандыдат гістарычных навук Пётр Гуд. Ён успамінае: «Кожны раз мы стараліся рабіць так, каб было нешта новае ў падачы матэрыялу. Укаранілі беларускую традыцыю кумавання».

Кумаваліся і гэтым разам — своеасаблівы абрад сяброўства. У вялікім імправізаваным дубовым вянку сыхо-дзяцца прадстаўнікі дэлегацый, абдымаюцца, абменьваюцца падарункамі, пасля завязваюць на вянку чырвоныя стужкі.

Праграма свята ўвогуле ўражвала: прэс-канферэнцыя з кіраўнікамі дэлегацый, «Горад майстроў», музычна-тэатралізаванае прадстаўленне «Пастаўскі баль», адкрыццё ў Палацы Тызенгаўзаў музейнай экспазіцыі пра фестываль, выступленне салістаў тэатра песні Ірыны Дарафеевай, святочны салют… Але самае галоўнае — конкурс калектываў і выканаўцаў на народных інструментах «Хто каго?». Спаборнічалі, хто каго пераспявае, перайграе, ператанчыць… Запалу музыкам — не займаць! «Рэжце полечку, за вуха, каб хапіла толькі духу», — падбадзёрвала малодшая група ўзорнага ансамбля народнай музыкі і песні «Званочкі» Варапаеўскай дзіцячай школы мастацтваў. Трымалі гледачоў на ўздыме выканаўцы з дарослага блока. Яркай, энергічнай, суладнай ігрой вабіў народны ансамбль народных інструментаў «ArtGame-квінтэт» Урыцкай дзіцячай школы мастацтваў імя братоў Крычаўцовых Гомельскага раёна. Не ўседзець — цягнула ў скокі пад іх лявоніху. Дадаў жару ансамбль гарманістаў «Аношкаўскія музыкі» з Нясвіжскага раёна. З першых нот захапіў залу ансамбль народнай музыкі і песні «Суседзі» Пласкінскага цэнтральнага сельскага клуба Пінскага раёна.

Цешыў і народны ансамбль народнай музыкі «Добры вечар» настаўнікаў Малотковіцкай дзіцячай школы мастацтваў Пінскага раёна. Зачаравалі цымбалісткі ў прыгожых квяцістых белых сукенках з ансамбля «Гарэзлівыя пераэвоны» Цэнтра культуры Віцебска. Ці магчыма такое: дзве дзяўчыны за аднымі цымбаламі? Б'юць наперагонкі і яшчэ паспяваюць у ладачкі пляскаць. Адмысловымі прыпеўкамі весяліла Святлана Самлановіч, кіраўнік узорнага тэатра-студыі «Гульнёвы кірмаш» з Воранава (акампаніраваў Васіль Маркевіч).

Запамінальныя і цікавыя нумары ва ўдзельнікаў з-за мяжы. Прыцягнуў увагу ансамбль латышскіх народных інструментаў кокле «Балці» Бабіцкага краю з Латвіі. Кокле — латышскі струнны музычны інструмент, знешне вельмі падобны на цымбалы. Але, як адзначыла кіраўнік ансамбля Валда Багата, на кокле, у адрозненне ад цымбалаў, палачкамі не іграюць. Перабор па струнах — быццам пералівы ручаінкі. Казачнае гучанне! Адметнае выступленне ў вакальнага ансамбля «Таміку» з Эстоніі. Сваяк латышскага кокле — эстонскі канэль. Па памеры невялікі, трымаюць у руках, іграюць пальцамі.



*Прыпевачнікі Святлана Самлановіч і Васіль Маркевіч з Воранава.*

Уразіў квартэт балалаечнікаў «Сітэна» Дома культуры горада Пушкіна з Расіі. У якасці музычнага інструмента — піла. Непераўзыдзены акампанемент — пілаванне бярозы ў такт музыцы. Але самы бляск — сола на піле. Дзівосы ігры і цуды імправізацыі!




*Салістка ансамбля «Гарэзлівыя пераэвоны» Аляксандра Палкіна.*

Арыгінальнасць, харызма ўдзельнікаў скараюць. Вось яно, майстэрства, пальцы лётаюць! Фаварыты вызначаны, лідары навідавоку. Але вырашальнае слова — за журы. Аўтарытэтныя прафесіяналы на чале са старшынёй Міхаілам Казінцом выявілі пераможцаў. Ацэньвалася адметнасць рэпертуару, самабытнасць, рэгіянальныя асаблівасці. У намінацыі «Дзіцячая творчасць» лаўрэатам І ступені сталі: ансамбль гарманістаў «Аношкаўскія музыкі»; цымбалісткі з Пастаў Лізавета Глазава, Маргарыта Нікіфаровіч, Валерыя Патушава; Кацярына Ясеньская (баян) з Варапаеўскай дзіцячай школы мастацтваў Пастаўскага раёна. Лаўрэат ІІ ступені ў намінацыі «Народныя спевы і прыпеўкі» — Кацярына Радыгіна, студэнтка каледжа Смаленскага інстытута мастацтваў (Расія).

У намінацыі «Выканаўца на народных інструментах» дыпломам «Лаўрэат ІІ ступені» ўзнагароджаны Васіль Шпігановіч, акампаніятар аўтаклуба Дзятлаўскага аддзела культуры; цымбалістка Аляксандра Палкіна з ансамбля «Гарэзлівыя пераэвоны». Лаўрэатамі І ступені ў гэтай намінацыі сталі салістка ансамбля латышскіх народных інструментаў кокле «Балці» Крысціна Какрэ (Латвія), Таццяна Сыравежкіна з ансамбля «ArtGame-квінтэт». У намінацыі «Ансамблі народнай музыкі» дыпломам «Лаўрэат ІІ ступені» адзначаны расійскі квартэт балалаечнікаў «Сітэна». Дыпломы «Лаўрэат І ступені» ў гэтай намінацыі ўручаны эстонскаму ансамблю «Таміку», украінскаму народнаму ансамблю народнай песні «Берагіня» Херсонскага абласнога палаца культуры, ансамблю латышскіх народных інструментаў кокле «Балці», ансамблю народных музыкальных інструментаў «Узуліні» Азалмужскай воласці Рэзекненскага краю (Латвія). Гран-пры — у кіраўніка украінскага ансамбля гарманістаў Жашкаўскай музычнай школы Івана Сухога. Сярод маленькіх музыкаў Гран-пры прысуджана фальклорнаму ансамблю «Дударыкі» гімназіі № 14 г. Мінска.

Заключны гала-канцэрт упрыгожыў Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча. На завяршэнне адбылося адкрыццё памятнага знака, прысвечанага гарадам-пабрацімам.




*Народны ансамбль народнай песні «Берагіня» (Украіна).*

**Наталля СВЯТЛОВА,**
**фота аўтара.**

# Нябеснае войска

**Удумлівае сузіранне абліччаў святых дапамагае чалавеку далучыцца да высокага, дасягнуць душэўнай гармоніі, сабраццa з сіламі... Адразу дзве выстаўкі іканапісу, магутнага і маляўнічага жывапісу, адкрыліся ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.**

Першая экспазіцыя «Муж, мужчына, воін» уключае 83 творы канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя са збору Веткаўскага музея стараверства і беларускіх традыцый імя Ф. Шклярава. Яго дырэктар, мастацтвазнаўца Галіна Нячаева, адзначыла: «Іконы, сабраныя ў звычайных вясковых хатах, многія з якіх ужо не існуюць, сведчаць пра тое, у што верылі нашы продкі, што думалі пра гонар, годнасць і сілу мужчын, іх ролю для сям'і і краіны». Паводле яе слоў, абразы — гэта важная часцінка культуры, з уласнай душой і лёсам. Некаторыя з прадстаўленых на выстаўцы работ старажытных майстроў перажылі вайну, часы барацьбы з рэлігіяй: прабітыя асколкамі снарадаў, перарубленыя сякерамі. Аднак большасць твораў добра захавалася, не згубіўшы яркасць колераў і трываласць матэрыялу — як правіла, дрэва.



*Ікона чатырохчасткавая: Пакроў, Усячэнне галавы Іаана Прадцечы, прарок Ілья, св. Георгій. Першая палова XIX ст. Веткаўская школа.*

Чаму ж менавіта «Муж, мужчына, воін»? Справа ў тым, што прадстаўленыя іконы адлюстроўваюць культ святых воінаў, які сфарміраваўся яшчэ з часоў хрышчэння Русі, ідэю абароны радзімы і пераадолення бяды. У «абавязкі» святых уваходзіла не толькі абарона ад рэальных ворагаў, але і ад хвароб, разбойнікаў, дзікіх звяроў і злых духаў.

У адной зале музея паядналася цэлая плеяда вобразаў хрысціянскіх прадстаўнікоў «нябеснага войска», духоўных заступнікаў рэальных салдат. З кожным святым звязана ўнікальная па сваёй прыгажосці і сіле легенда.

Галіна Нячаева падрабязна распавяла пра агульную гісторыю прадстаўленай у музеі калекцыі стараверскіх і беларускіх праваслаўных абразоў, звязаных з імі фальклорных даследаванняў, экспедыцый. «Гэтая маштабная праца пачалася яшчэ ў 1995 годзе, калі ў краіне адзначалася 50-годдзе Вялікай Перамогі», — паведаміла мастацтвазнаўца.

Другая выстаўка — «Беларускі іканастас» — уяўляе іканапіс і драўляную пластыку канца XVII — пачатку XIX стагоддзя са збору як Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, так і Музея старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук.

Экспазіцыя прымеркавана да 80-годдзя з дня нараджэння Мітрапаліта Філарэта, ганаровага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. Тут можна пабачыць творы са старажытных шмат'ярусных іканастасаў, якія з'яўляліся часткай алтара храма. Святыя вобразы Архангелаў Міхаіла і Гаўрыіла, Хрыста Збавіцеля, Дзевы Марыі, Іаана Прадцечы і дванаццаці апосталаў, якія ўпрыгожвалі храмы, цяпер перамясціліся ў музей.

Прадстаўлены на выстаўцы і амаль цэлы іканастас XVIII стагоддзя з Шараўскай Прачысценскай царквы, а таксама сем старадаўніх абразоў (у тым ліку «З'ява Жыровіцкай іконы Маці Божай») з іканастаса Успенскага сабора, перададзеных музею Жыровіцкім манастыром. Гэта вельмі рэдкія сакральныя творы.



*Цуды Георгія аб змеі. XIX ст. Веткаўская школа.*

Прыкметная частка экспазіцыі — Царскія вароты, перададзеныя ў музей з сельскіх храмаў, з вытанчанай фігурнай разьбой у выглядзе кветак ці раслін.

Мастацкія вобразы на выстаўках дапаўняюцца дакументальным і дапаможным матэрыялам — фотаздымкамі і тлумачэннямі, напрыклад, пра тое, што такое «ікона ў іконе» альбо Спас Нерукатворны, у чым іх гаючая і духоўная сіла.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Запрашэнне ў В'етнам

**Фотавыстаўка «Прыгажосць В'етнама» прадстаўлена ў Нацыянальным мастацкім музеі ў межах Дзён в'етнамскай культуры ў Рэспубліцы Беларусь.**

Тэрыторыя Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам мае S-падобную форму і размяшчаецца ў самым цэнтры Паўднёва-Усходняй Азіі. Тут пражывае больш як 90 мільёнаў чалавек 54 нацыянальнасцей. Прыцягваюць жывапісныя марскія пляжы, раскошныя месцы для адпачынку, багатая флора і фаўна.

Зямля В'етнама славіцца помнікамі, многія з якіх прызнаныя ЮНЕСКА сусветнай культурнай і прыроднай спадчынай. Гэта заліў Халонг, комплекс прыродных і гістарычных славутых мясцін Чанг Ан, старажытны цэнтральны горад Хюэ — былая сталіца В'етнама, якая данесціь да нас асаблівасці феадальнай эпохі. Гэта і старыя вуліцы некалі ажыўленага марскога порта Хаян, якія сумуюць па часах былога гандлёвага росквіту, і многае іншае.



*Каменны Сабор Фатзіем, правінцыя Нінбінь.*



*Элітны курорт у цэнтральнай частцы В'етнама.*

Фотавыстаўка «Прыгажосць В'етнама» знаёміць наведвальнікаў з выдатнымі мясцінамі, традыцыйнымі фестывалямі, культурай і побытам насельніцтва ў розных частках краіны. Экспазіцыя дапаможа даведацца пра выдатны і мірны В'етнам з яго працавітымі і гасціннымі жыхарамі.

Выстаўка — своеасаблівае запрашэнне наведаць В'етнам, краіну высокіх культурных каштоўнасцей, якія фарміраваліся на працягу тысячагоддзяў.

**Таццяна ШЧЭРБА**



*Дзяўчынка ў гарах.*


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 9.07.2015 у 11.00

Ум. друк.11 арк. 3,72

Наклад — 2031.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1479 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.